Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

2 ЛЮТЫ

# БЕЛАРУСЬ КАЛГАСНАЯ

ШТОМЕСЯЧНАЯ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ
ЧАСОПІСЬ
АБ'ЯДНАНЬНЯ ПРАЛЕТАРСКА-
КАЛГАСНЫХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ



МЕНСК
1932

ВЫДАВЕЦТВА „КАЛГАСЬНІК БЕЛАРУСІ“

Васіль Каваль

## БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ! *)

— Уставай, днее!—радасна крыкнуў нехта спрасонку з нараў.

Мы ня спалі. Голас прагнаў апошнюю ўсьціхаміраную дрымоту. Але крык ня ўнімаўся.

— Хлопцы, падымайся! Дзень ужо!

Нехта тузаў у сьпіну і падымаў вэрхал.

— Ты што, звар'яцеў? Я толькі што сагрэўся і задрамаў, а ён — спаць не дае...

— Падымайся, кажу, зараз прыедзем! — крычаў радасны і неўгамонны чалавек.

— Ну, і што з таго? Прыедзем— і прыедзем!

— Зараза ты, Цыганок! Маўчы!

— Ну, і людзі, чорт вас пабяры! Разаспаліся, хоць ты канём іх цягні. Чуеш, паравоз сьвішча — гу-гу-гу.

— Сволач!—нехта ядрана абазваў Грышку Цыганка.

У адчыненыя дзьверы цяплушкі, як з прывязі сарваўшыся, шугануў нахабна вецер, выпушчаны з волі неўгамонным Цыганком, і ў дзікай мятусьні разарваў апошнія ўздыхі сну,—у сьне былі мары і гарызонты маладога дня.

Шумам, крыкам, лаянкай віталі людзі новы дзень, які нёс нам будучыню.

Цягнік ішоў бясчынна-павольна. Мы правялі ў ім цэлую ноч. Вагон-цяплушка страшэнна грукацеў, спыняўся нямаведама чаго. Мы хацелі хутчэй прыехаць. І лаялі гэты хрыплы паравоз, машыніста і нават стрэлачніка, які, напэўна, зусім ня ведаў аб нашых настроях. Нам было холадна, ня гледзячы на тое, што ў цяплушцы было каля чатырох дзесяткаў чалавек. І саграваючыся хто як мог, сваёй агнявой фантазіяй мы абганялі на тысячу кілёмэтраў нядбайнага „максіма". Мы былі ўжо там, на месцы, у няведамым фантастычным горадзе, у казармах. Пад гукі баявых маршаў стройнымі радамі праходзілі вуліцы гораду. У нас была адвага і мужнасьць. Так, мы нават маглі быць героямі!

Мы — эшалён дапрызыўнікаў — ехалі служыць у Чырвоную армію, закліканыя Рэспублікай. Народжаныя ў дзевяцьсот восьмым годзе, мы ня нюхалі паху атрутных газаў, не адчувалі на сьпінах гранатных асколкаў. Калі нашы бацькі на франтох двух войнаў змагаліся за рэволюцыю, наша пакаленьне яшчэ пешкам хадзіла пад стол. Але мы разам з усімі перажывалі дзікія жахі сусьветнай бойкі. Мы бачылі кроў, хоць і ня ўдзельнічалі ў праліцьці гэтае крыві. Мы ўсё-ж такі нешта рабілі, ненавідзелі, любілі, вучыліся!

У саматканых сьвітках, у лапцях, у зашмальцаваных куртках, з грубымі рукамі, з грузам неразьвязаных пытаньняў, мы ехалі здаваць перад Рэспублікай і клясай экзамен на сьпеласьць і мужнасьць. Аб экзамене ня ўсе ведалі. Нават ня ўсе чыталі політграмату, нават ня ўсе ўмелі чытаць. Тут быў яшчэ сыры матар'ял, звонкі, як золата. Гэта быў вясеньні чорназём, у які варта было ўмела ўваткнуць дубовы кол, як ён расьцьвіў-бы і зашугаў такім пышным кустом, што вырасьлі-б жалуды, як гранаты...

Расплыўся па зямлі прадранічны змрок — і вырас раптам на дзіва такі цьмяны асеньні дзень з золкімі

*) З твору „Дзень палымнее".

парывамі ветру. Паўзе цягнік, а вецер шалясьціць у абтрэсеных жоўтых садох. На паўстанках у палісадніках ірдзеюць рабіны, а ў вышыні, перасякаючы дарогу над цягнікомі, плывуць гусі.

Мы распалілі цагляную грубку. Абступілі кругом, стараемся грэцца. Я гляджу праз едкі курадым на ўспышкі агню і бачу перад сабою вечар на станцыі. Вайсковы аркестр, які праводзіў нас, заглушаў гутаркі на пэроне.

— Чаго-ж тут плакаць, маці? Сынжа ідзе ў Чырвоную армію. Праслужыць два гады і вернецца назад здаровы, як дуб. Бывай здаровы, сынок!

Бацька вусаты і ў замасьленай блюзе, відаць толькі што зьвярнуўся з заводу і не пасьпеў пераранацца, каб правесьці сына, цісну сыну руку і абдымаў моцна, па-бацькаўску.

— Паслужы, сын, мы служылі ня так. Эге! Кінь, румзаць, маці,—строга сказаў ён да бледнатварай жанчыны. Ідзем да хаты, маці.

Таварышы шумным натоўпам з жартамі праводзяць свайго таварыша.

А на пэроне дужы хлапец аніяк ня можа вырвацца з абдымкаў маленькай дзяўчыны ў чырвой хустачцы. На пухленькіх шчаках у яе так многа горкіх нясуцешных сьлёз.

— Мілы, гаварыла яна, — ты паедзеш... А я?.. Ты мне хоць прышлі сваю картку... Я так многа буду думаць аб табе!..

Наіўная і сьмешная дзяўчына! Яна не хацела яго адпускаць. Ён у аднэй руцэ трымаў чамадан і баяўся спазьніцца. Цягнік борздым канём хрыпеў і рваўся ў дарогу.

Грымеў бубен, гудзелі трубы, мінорам залівалася флейта. Аркестр стаяў на пэроне і граў нам разьвітальны марш. Над станцыяй і над зямлёю яркімі сузор'ямі сьвяціліся далёкія, чужыя плянэты. Годы таму назад праяжджалі тут людзі на фронт. Як тады сьвяцілі сузор'і?

— Вы едзеце на новы фронт,— гаварылі нам камандзіры на мітынгу, — на фронт ня менш адказны і ня менш цяжкі, чым фронт крывавых боек, бо мы хочам малай крывёю заваяваць будучыню, імя якой — сацыялізм!

Мы гатовы! Так трэба! Але на адзін момант крадзецца ліхім ценем няпрошаная журба і хочацца саладка паскардзіцца на сябе некаму блізкаму, дарагому. На пэроне я знаёмых нікога не знаходжу. І я махаю рукою, шапкаю ўсім, якія праводзяць і якія зараз становяцца такімі блізкімі і дарагімі.

— Бывайце! Бывайце здаровы!

Дзяўчына зьняла з галавы чырвоную хустачку і, праставалосая, махае доўга, доўга. І сотні рук даюць наказ:

— Бывайце!

І я гляджу на гэтых людзей, радуюся, крычу ў прастор і бачу, як у далі зьнікаюць агні сталіцы Рэспублікі, якая сягоньня паклікала мяне...

Белабрысы і лапавухі Грышка Цыганок, лятуценна гледзячы на агонь, гаворыць:

— Вось мы, значыцца, прыедзем у горад... На станцыі нас сустракае музыка. Абавязкова музыка. І сьцягі кругом, ды ўсё чырвоныя. Здаровы былі, хлопцы!—скажуць нам,—Здаровы, скажам!—Прыехалі да вас служыць.—Добра!

Ён жвавы, як вавёрка, размахвае рукамі і малюе ідылію спатканьня.

За трапна выказаным словам падымаецца шчыры дружны рогат.

— Ты паслухай мяне,—гаворыць калмыкаваты Галында, — а можа будзе так, што прыгоняць цябе, запруць у казарму і ня выпусьцяць два гады.

— Эх, ты, Галында,—умешваецца задуменны і запальны, як іскра Саўка Сівачоў, — аблавухая твая шапка. Наслухаўся ты недзе бабскіх плётак і вярзеш, што ў галаву ўлезе.

— А ты, як думаеш? — гугнява і павольна адказвае Галында.— Канешне, запруць. У карантыну пасадзяць.

У справу ўмешваецца першы мацяршыньнік і задзіра Кузькін.

— Галында праўду кажа. Будуць ганяць, ганяць і адным хлебам карміць.

Кузькін кінуў цыгарку і цыркнуў у агонь:

— Нагаварылі вам — добра! добра! дык яны і разьвесілі вушы...

Тут ужо ўмешваецца цэлы натоўп і на перабой пачынаюць крычаць:

— Лухту вярзеш, Кузькін!

— Старыя бабы нагаварылі вам!

— А па-мойму, дык проста кулацкія гутаркі!

— А ты чуў, што на зборным пункце камандзір расказваў? — насядае Сівачоў.

Кузькін пагардліва абарачваецца.

— Ня верыш? — пачынае кіпяціцца Сівачоў.

— Можа — веру, можа—ня веру. Справа мая. Ведаю адно — соладка ня будзе.

— Цябе-б зусім ня пусьціць у армію!

— Мне яшчэ лепш!

— Сволач ты ўсё-ж такі вялікая,— кажа Саўка Сівачоў і, ня маючы сілы стрымацца, адыходзіць у бок.

Наступае хвіліна няёмкага маўчаньня. Галында вымае махорку і акуратненьна скручвае цыгарку.

Грышка Цыганок падстаўляе кавалачак газэтнае паперы.

— Апчхі! — кашляе ён і зьвяртаецца да Галынды. — Ану, сыпані, брацішка, на цыгарку.

Галында ўзводзіць на яго цяжкі спадлоб'я позірк і, смачна зацягнуўшыся, пытае:

— Ты—курэц?

— Ну—далей валяй!

— Ну, і куры сваю.

— Шкода на цыгарку?

— Ня шкода, але май сваю...

— Эх ты,—ціха крыўдзіцца Цыганок.—Кузькін і той-бы даў закурыць (Кузькін адварачваецца). Ну, і ёлап-жа ты хвашчоўскі! У якім ты толькі балоце вырас?

— Ну, і дрэнь!—чуецца з розных бакоў.

— Яго і армія не навучыць.

Галында мацюгнуўся і адышоў у бок.

І ў гэты час некалькі рук з махоркаю пацягнуліся да Цыганка.

— Закуры ў мяне, браток!

— Я, брат, не пашкадую. У армію едзем, а ня куды-небудзь.

— Папрабуй маёй!

— А ў мяне, здаецца, лепшая.

Цыганок нават зьбянтэжыўся і ня ведаў якую браць.

— Во, гэта я разумею. Гэта хлопцы. З такімі не прападзеш.—Ха-ха-ха.

— Мы — свойскія. Таму, як чырвонаармейцам быць, ня лапцем крупнік хлябаць. Хлопцы— во! На ўсе сто!

— Эх, дай засмалю ў цябе, Чарнуха!

— Бяры, брат, я не шкадую.

— Дзякую. А скажы, адкуль ты, Чарнуха?

— Я з-пад Магілева, з калгасу.

— То-ж—бо я і бачу. Калектыўскі хлопец. Я таксама з калгасу. Значыць, разам будзем служыць?— закурыўшы, хлопае Цыганок па плячы Чарнуху.

— Канечне, будзем,—усьміхаецца Чарнуха.

Паміж імі завязваецца сяброўская гутарка.

У Максіма Чарнухі абветраная дажджамі, палатаная сьвітка, рабыя саматканыя штаны; у яго нязграбныя рукі з сьлядамі зямлі, крыху сутулая шырокая сьпіна і скуласты твар, як абсыпаны дробным порахам. Уставіўшыся ў адну кропку, ён любіць глядзець доўга і ўпарта. Я гляджу на яго сьвітку — і ўспамінаю коняй, сенажаці, начлегі ў халодныя ночы і глыбока ўзвораную пахату.

— Скажы,—спытаў ён у мяне,— у арміі можна стаць трактарыстым?

— Так, можна навучыцца. А табе навошта?

— Бачыш ты, калі мяне выпраўлялі, дык далі наказ, каб я навучыўся на трактарыста. У нас мала людзей у калгасе...

Нашу гаворку заглушае шум. Максім крычыць мне над самым вухам.

— Падвучуся там. Прыеду трактарыстам — гэта слаўна будзе? Як ты думаеш?

— Добра!—крычу я...

З крыкаў і размоў нечакана перайшлі на песьню. Дружна і галасіста сьпявалі „вінтовачку", вывучаную на зборным пункце ад камандзіра аддзяленьня, за што той карыстаўся нязвычайнай пашанаю.

„Ты, вінтоўка, друг мой верны,
З табо-ою служым многа лет...

Песьня, мабілізаваная з прастораў, разрывала на шматкі паветра. Людзі захапляліся песьняю і забывалі ўжо, што яны толькі простыя хлопцы з заводаў, колгасаў і сёл, што яны яшчэ ня служылі, што „вінтовачка" ня была іхным другам.

Нязьменны гармонік гучнымі ладамі пераплятаўся з песьняю. Праяжджаючы каля паўстанкаў, дапрызыўнікі махалі людзям шапкамі і тыя ў адказ ласкаваківалі галовамі, а дзяўчаты сарамліва ўсьміхаліся на жарты.

І ў бой крывавы пойдзем сьме-ела
І будзем біцца за са-авет.

— На вайну! — ярасна падхоплівалі прыпеў.

А насустрач сінелі лясы.

За празрыстымі і вільготнымі туманамі сінелі лясы, ляжалі ў восенскай спустошанасьці ўбогія палявыя роўнядзі, старанна і скупа парэзаныя людзьмі на палоскі. За пляшывымі ўзгоркамі ў ярах і далінах у беспардонным хаосе палахліва разьбегліся хаткі панурай вёскі. Насустрач халодным срэбрам блішчэлі бязымянныя рэчкі.

Адчувалася веяньне таго гораду, куды мы павінны былі прыехаць.

Усе настаражыліся і змоўклі.

Але і тут ня ўтрымаўся белабрысы Цыганок.

— Ну, зьбірай лахі пад пахі, — сказаў ён, абхапіўшы свой фарбаваны сундучок, і раптам на ўсю глотку крыкнуў, калі пад'яжджалі да станцыі:

— Станцыя Білізай, каму трэба — зьлязай.

Грышка Цыганок павінен быў расчаравацца. На просьценькай станцыі было бязьлюдна, ня было ні сьцягаў, ні музыкі. Стаялі дзьве пары чырвонаармейскіх фурманак. Маленькі і кучаравы камандзір разьдзелу з новенькай кабураю нам загадаў скласьці свае рэчы на фурманкі.

Мы моўчкі стаялі ў чарзе—і Максім Чарнуха з торбаю, і Грышка Цыганок з малінавым сундучком, і Кузькін з мяшком напоўненым сялянскімі прысмакамі і сухарамі, назапасенымі чуць не на цэлы год, і насупіўшыся пад цяжарам вялізнага ўласнага сундука, у якім могбы зьмясьціцца цэлы пасаг, апошнім стаяў Галында, бегаў і ўстанаўліваў чаргу Саўка Сівачоў.

Камандзір разьдзелу нас выстраіў па - чатыры. Рознапярэстым натоўпам мы пашлі ў горад. Самы звычайны раённы горад быў далёкі ад фантыстыкі,—вуліцы былі крывыя домікі дзеравяныя. Прайшоўшы праз рынак, дзе стаяў бязладны тлум, мы пашлі шырокай забрукаванай вуліцай. Спыніліся ў Доме Абароны...

У трэці раз мы стаялі голымі перад мэдычнай камісіяй. Маладыя вайсковыя ўрачы так старанна ашчупвалі, слухалі, распытвалі, што хацелася, каб хутчэй скончылася.

— Як у вас з сэрцам? Дыхайце!

— Усё добра!

— А лёгкія? Пакажыце вочы.

— Здароў!

Скончыўся мэдычны агляд. Нас павялі мыцца ў лазьню. У першым пакоі мы дагала распрануліся. Усе старанна, у мяшок запакавалі свае штацкія рэчы.

Усе сьпяшаліся мыцца, стаяў гоман і шум, колькі не супакойвалі камандзіры аддзяленьняў.

— Эх вы, неорганізаваная маса,— крычаў потны аддзелком.—Па чарззе, па чарзе падыходзьце! Без чаргі ня пушчайце! Куды прэш, неорганізаваная маса!

Голыя, з расчырванелымі целамі, „неорганізаваная маса" сьпяшаляся атрымаць абмундыраваньне, насядалі на плечы, зьбівалі з ног.

Я лёгка ўздыхнуў. Нарэшце, такі і я атрымаў паложанае мне абмундыраваньне.

— Хутчэй апранайцеся, таварыш. Пасьпяша-ай!

— Чорт вазьмі, на даюць як сьлед апрануцца.

Я чым больш сьпяшаюся, тым горш у мяне выходзіць: раскручваюцца парцянкі, спатнелыя ногі ня лезуць у боты. Гузікі ў новай гімнасьцёрцы не зашпільваюцца. Пот мне есьць вочы і буйнымі каплямі капае на мае няспрытныя рукі. Так-сяк апрануўшыся, я задаволена ўстаю і іду да вялікае люстры, у рост чалавека.

Там ужо стаіць цэлы натоўп, і кожны з настарожнасьцю, са зьдзіўленьнем разглядае самога сябе.

— Гэта я ці ня я? — Цыганок стукнуў сябе па потнаму ільбу і так зарагатаў, што ўсе, хто нават ня чуў яго, дружна і згодна зарагаталі.

Цыганок павярнуўся некалькі разоў перад люстрам і, нарэшце, зрабіўшы сур'ёзную міну, застаўся ўсё-такі незадаволеным сабою. Усё было на месцы, усё было, як сьлед. Вось толькі вушы, гэтыя чырвоныя лапавухія вушы—яны ўпарта як на зло тырчэлі з-пад новенькага шлему. Іх зусім ня можна было схаваць.

Кожны не пазнаваў самога сябе і таварышоў, -- такая зьмена адбылася.

— Ты чаго ўсьміхаешся— га? Рад?

Чаму-ж—не? Што ты думаеш, жартачкі—ого! Я-ж цяпер сапраўды чырвонаармеец.

— Правільна!

— А ну, пусьці мяне. Цікава— што я цяпер за чалавек? Дзіва, быццам у другі раз на сьвет нарадзіўся.

І чалавеку, апранутаму ў шынэлю, як у другі раз народжанаму на гэты цікавы сьвет, паважна ўступалі дарогу.

— Прайдзі, брацішка!

А Цыганок насіўся са шлемам.

— Хто са мною, хлопцы, зьмяняецца на шлемы?

Шлемы прымервалі, абменьвалі. Цыганок вымяняў сабе вялікі шлем, улез у яго з вушамі і тады застаўся задаволены.

— За адзін мой шлем, за мой геройскі выгляд, адразу-б закахаліся дзяўчаты.

— Ну й выгляд!

— Ну, й герой!

— Як пудзіла ў гародзе, а ён яшчэ хваліцца ..

— Ха-ха!

І калі ўжо ля люстры стала вольна, спакойна падышоў Максім Чарнуха. Ён здаецца нават спалохаўся трошкі, калі ўбачыў у люстры свае шырокія плечы і потны скуласты твар. У яго нават у вачох зьявілася нейкая засмучанасьць. Ён зьняў шлем і зьдзіўлена пагладзіў мокрую стрыжаную галаву. Ён ня мог уявіць сябе бяз шапкі з аблупленым казырком і аблатанай кругом шэрай сьвіткай, гледзячы на якую ўспаміналіся коні, начлегі, аржаныя цьвітучыя палі. Зараз шлем, на якім ярка гарэла пяцікутная зорка, накладалі на яго такія абавязкі, аб якіх ён мала ведаў.

На вуліцы, перад лазьню, мы зноў выстраіліся і маленькі кучаравы камандзір разьдзелу павёў нас праз горад у казармы. Ідучы ў страю, мы зьбіваліся з нагі, не патраплялі браць дыстанцыю і наступалі адзін аднаму на ногі. Мы дзівіліся па бакох і ў першы-ж дзень хацелі разглядзець увесь горад. Ногі з няпрывычкі муляліся, туга падцянутыя трэнчыкі перашкаджалі дыхаць. І гэтыя два кілёмэтры ад лазьні да казармаў здаліся такімі даўгімі і нязвычайнымі... Бо мы несьлі на плячах апроч гэтых но-

венькіх шэрых шынэляй, якія здаваліся неймаверна цяжкімі, цяжар няўнятнага сардэчнага клопату.

Вось мы падыйшлі на жоўты ад восенскага кляновага і бярозавага лісьця ўзгорак. Аголеныя і каравыя дрэвы шумяць. На дрэвах сакочуць белабокія сарокі. Баламутны вецер разносіць нежныя птушыныя пёркі, якія напамінаюць тонкую павуціну на звонка-галосым іржэўніку ў пару бабінага лета.

— Раз-два, левай! Левай! Наддай кроку—левай!—камандуе маленькі, кучаравы комразьдзелу і злуецца, што нехта размаўляе ў страю...

Мы ўступілі ў крэпасьць, прайшлі арку, апавітую пажаўцелай хвояй з надпісам:

— Чырвонаармейскія вароты.

Так, мы прайшлі праз „чырвонаармейскія вароты", праз вароты, якія зачынілі на пэўны час і аддзялілі ад таго, што мы рабілі, дзе мы жылі.

Крэпасьць абкружваў шырокі вал з шырокімі прысадзістымі вежамі, з сьлядамі на іхных сьценах ад куль і шрапнэляй—як адзнака таго, што тут калісьці вяліся героічныя бойкі. У гэтай крэпасьці дзесятак год таму пралівалася густая непакорная рабоча-сялянская кроў, і з зубоўным скрыгатам так злачынна-проста памiралі людзі з такімі, як у нас, яркімі зоркамі на шлемах.

Мы былі ў вайсковым гарадку з простымі забрукаванымі вуліцамі, трохпавярховымі каменнымі казармамі, канюшнямі, майстэрнямі, гаражамі, пляцамі для вайсковых заняткаў. Цёмна-чырвоныя фарбы і нязвыклая суровасьць і прастата ліній будынкаў напамінал і аб нязьведанасьці гэтага жыцьця, аб мужнасьці і дысцыпліне.

І ўсё было проста.

Дзесятак чырвонаармейцаў старанна, да бляску чысьцілі гармату каля артпарку. Непадалёк чысьцілі коняй і напавялі. Рота займалася страявымі заняткамі. Аддзяленьне кавалерыстаў бралі бар'ер—і з такой галаваўскружальнай хуткасьцю несьліся, што думалася вось-вось нехта зваліцца і разаб'ецца ўшчэнт.

Спакойна пасьвіставаючы, паілі артылерысты ў доўгіх карытах сытых коняй і адзін з іх, весела паглядаючы на нас, сказаў:

— Маладыя прышлі. Восьмы гадок.

Другі, каржакаваты і каротканогі, трымаючы каня за повад, павярнуў галаву і сказаў таварышу:

— Значыць, даёш нам зьмену, старым... Мы ідзем на зьмену старым...—пераклаў ён свае думкі ў песьню.

Побач з спакойнымі таполямі, грозна нашчэрыўшыся, стаялі ў стройным парадку і дагледжанасьці гарматы розных калібраў.

І ў другі раз, мусіць, заняпаў духам Цыганок. Мы бачылі самую будную цяжкую работу.

Мы стаялі ў дзьве даўжэзных шарэнгі перад будынкам нашае казармы.

— Можна курыць,—сказаў комразьдзелу і затупаў на адным месцы, каб сагрэць ногі.

Мы зьвярнулі цыгаркі, курылі. Некаторыя, каб сагрэцца, пачалі тузацца. Сутачная дарога адчувалася: цела хацела спаць, жывот хацеў есьці. Але вось зараз ужо, праз некалькі хвілін, мы ўвойдзем у казарму, нап'емся гарачага чаю, ляжам і будзем спаць хоць цэлы тыдзень. Так гаворыць нам кучаравы комразьдзелу і сьмяецца з нашага неразуменьня.

— Пажывіце, самі усё даведаецеся. Гэта зусім, зусім ня страшна. Дысцыпліна? Канечне, дысцыпліна строгая. А як-жа? Без дысцыпліны ня можна...

— А вось скажыце, тав. камандзір, як у карантыне?

— Паляжыце там дзён дзесятак. Рабіць пакуль што нічога ня будзеце. Будзеце прывыкаць...

Мы ўжо цесным колам сталі абступаць гаваркога камандзіра, як ён раптам, павярнуўшыся да дзьвярэй казармы, кінуў папяроску і голасна засьпяваў:

— Кідай курыць. Стана-ві-ісь! Зважа-а-й!'

З дзьвярэй казармы вышаў стройны высокі камандзір з трымя „шпалямі“. На грудзёх новенькай шчыгульна-ахапіўшай яго шынэлі зіяў ордэн чырвонага сьцягу.

Камандзір палка размашыста ўзяў правай рукою пад галаўны ўбор і чотка прамовіў:

— Добры дзень, таварышы!

Мы крыкнулі на прывітаньне голасна, але бязладна.

І наступіла гучная цішыня: адны сталі часаць патыліцы, другія адкашлівацца, трэція таптацца на месцы.

Камандзір палка ўсьміхнуўся, мы тады яшчэ ня ведалі, які гэта грозны і суровы ў адносінах да дысцыпліны, наш камандзір палка. Захаваная і дапытная насьмешлівая цень прамільгнула на хударлявым, да сіняватасьці выгаленым твары. Цень застрала ў прыжмураных, шэрых вачох.

Ён размашыста, нахіліўшы галаву і паглядаючы на нас, прайшоў паўз шарэнгу. Ён шырока размахваў на хаду аднэй правай рукою. Ён крута павярнуўся да нас і падняў руку на ўзровень са шлемам.

— Таварышы маладыя чырвонаармейцы! — сказаў ён высокім да сіпоты голасам і апусьціў руку.

— Вы прышлі ў N-ны стралковы ўдарны полк. Так, ударны полк... Наш полк ужо на працягу трох год трымае пяршынства ў дывізыі па ўсіх відах баявой вывучкі.

Над тонкай пераносіцай у камандзіра вырасьлі маршчынкі. Ён гаварыў расьцяжна і глыбокадумна.

— Полк і ў мінулым мае слаўную гісторыю барацьбы з белапалякамі на розных франтох. Шлях нашага палка, — у мінулым брыгады—пераможны шлях ад ракі Бярозы да Віслы, дзе мы біліся як львы, дзе паміралі і перамагалі рабочыя і сяляне за Савецкую Беларусь...

Камандзіру палка было ня больш сарака год. Маршчыны над пераносіцай не азначалі старасьці. Ён з гордасьцю і любоўю ўспамінаў...

— І калі сусьветныя бандыты, якія шалёна рыхтуюць вайну супроць нас, захочуць патапіць у моры рабочай крыві шостую частку зямлі, дзе будуецца сацыялізм, мы накіруем усе свае караблі, дрэдноўты, мы пакажам моц пралетарскае клясы... Там...

Кампалка паказаў на захад.

Там, падобныя беларужовай пене, плавалі воблакі. Там, у белым сырадоі стаяў паўкруг сонца за дрэвамі кургана. Цішыня перад заходам сонца была настарожаная і здрадлівая.

— ...І калі вораг памкнецца на СССР—мы ўсе па першаму закліку рабочае клясы пойдзем... у апошні і рашучы бой...

І ў сінеючым надхмар'і прапэлеры экскадрыльлі самалётаў, змагаючыся з хмарамі, рассыпалі дроб, падобную на цоканьне падкоў коньніцы, што яшчэнедзе далёка, за гарызонтам, за гарою імчыцца, з клінкамі ў руках у бой.

Кампалка захапляўся. Чым далей, тым усё больш шырокімі рабіліся яго крокі—ён хадзіў паўз шарэнгу і шырока размахваў правай рукою.

— А для таго, каб перамагчы ворага, вы павінны быць добрымі чырвонаармейцамі, трапнымі стралкамі, добра асвоіць тэхніку...

Ён расказваў нам аб вялікім званьні чырвонаармейца. Мы павінны насіць гэтае званьне з гонарам, чэсна і непарушна, бо мы дзеці рабочых і сялян, якія змагаліся за Рэспубліку Саветаў.

Кампалка спыніўся. Ён канчаў сваю прамову. Маршчынкі ў яго зьніклі. Ён сказаў:

— І так...—і падняў руку на ўзровень са шлемам.

Ён дабрадушна і гасьцінна ўсьміхаўся.

— Яшчэ раз вітаю вас з прыходам у шэрагі Рабоча-Сялянскае Чырвонае арміі. Ура!

Мы крычалі „ура“—тры разы, мы крычалі з захапленьнем і на гэты раз у нас вышла дружна і раскаціста.

Тады кампалка загадаў нас адвесьці ў памяшканьне.

Мы ўпяршыню ўваходзілі ў дзьверы казармы. З хваляваньнем і боязьню.

Я толькі на адзін момант спыніўся і павярнуў галаву назад, — гэта было першага лістапада, у ветраны дзень, шумелі таполі, вечарэла.

Калі я рашуча пераступіў парог казармы, там запалілі электрычнасьць. Асьвяціліся людзі і рэчы, — скончылася ўяўленьне, усё было да суровасьці проста і блізка.

8—1—1932 г.

**Т. Кляшторны**

Хай будзе помнікам правадыру
Здабытчі пяцігодкі нашай.



* * *

Калі
Саюз яшчэ
гарматныя
сьляды
Ня здаў гісторыі
як
помнікі старыя,
калі
гартаваныя
ў бойках рады
цэмэнтавалі
раны індустрыі, —
За варстаком
тады
баец
і партызан,
што бачыў буры,
бачыў навальніцы,
успамінаў
пра боль уласных ран,
якія
не пасьпелі загаіцца.
І ўспамінаючы,
што
„Мы перамаглі“
душа байца
зарэла
мужнай верай...
Упарта
частка шостая зямлі
ішла за Леніным
наперад.
і наперад.
Зарэла нам
гісторыі зара.
Зямлі ўчорашняй
зьмянялася аблічча...
У кожным русе —
моц правадыра,
і кожны крок —
па ленінску разьлічан.
Прышоў
праз бойкі,
краты
і,
растрэл
пралетарыят
перабудаваць плянэту...
. . . . . . . . . . . . . .
І
раптам вестка:
„Ленін захвараў“
трывожным гоманам
прабегла
па сусьвету.
І кожны
пралетар
сказаў сабе тады:
„хіба-ж пульс Леніна
пакінуць можа
біцца?
Ці-ж
можа
паміраць
сусьветны правадыр?
Ці-ж можа
геній
сьмерці пакарыцца?
Само жыцьцё,
гісторыя сама
За Леніна
Як творцу чалавека“...
. . . . . . . . . . . . . .
І
вестка зноўку:
„Леніна няма,
Сьмяртэльны грым
замкнуў
Яго павекі.
Вялікі творца,
геній,
правадыр,
баец,
і вартавы
пакінуў поле бою“...
. . . . . . . . . . . . . .
І
З мільёнаў позіркаў

тады
Зірнула роспач
смуткам
і жальбою.
І кляса,
нясучы
бальшавіка ў маўзалей
Сказала
будучым
і нашым пакаленьням:
„Хоць
і хаваем Леніна,
але
жыве
наш
няўміручы Ленін!
Хады ня спыніць
Ленінскі саюз.
Мы
перайначваем
зямлі абліччa.
У творчай працы
б'ецца яго пульс,
наш
кожны крок
па ленінску разьлічан.
Дарогай Леніна
мы пойдзем
як заўжды.
Дарогі нашае
не зайсьцяць
золь
і хмары"...
І кляса
ў Ленінскую партыю
тады
паслала
тысячы
найлепшых пралетараў.
Тады
Саюз яшчэ
гарматныя
сьляды
ня здаў гісторыі
як
помнікі старыя,
Яшчэ
гартаваныя ў бойцы
гарады
цэмантавалі
раны індустрыі...

. . . . . . . . . . . . . .

Гады ішлі...

З гадамі
мы расьлі,
выконваючы
Леніна заветы...
І так,
шастая нашае Зямлі—
у рыштаваньнях
волатаў сусьвету.
Дакляравалі мы:
„дагнаць
і перагнаць"...
І вось вам
нашай працы
росквіт:
у тры-чатыры,
а не ў пяць
становяцца
у строй
Магнітагорскі.
Няма
больш месца
спадчыне старой!
Бальшавікі
ніколі не марудзяць.
Тут
з кожным днём
становяцца ў строй
Турксібы,
Сталінбуды,
Днепрабуды.
Вось так расьце
у наш
вялікі век
Краіна
Электра-сьвітаньня...
А самае галоўнае—
што чалавек
узрос вышэй
сваіх
вялікіх рыштаваньняў.
Сама гісторыя
дае правы
расьці,
дае
правы гісторыя
на росквіт...
У побыце,
культуры
і жыцьці
Будуюцца
магутныя Магнітагорскі.
Адна шастая

нашае Зямлі
ператварылася
у краіну індустрыі...
Машынным гоманам
калгасныя палі
паўсталі
супраць
дзікае стыхіі,
Каб
кожны атам
вольтамі зарэў,
каб з вольтамі
суладзіць поля,—
Стыхію
ў цуглі мы бярэм,
Як рысака
зьдзічэлага на волі.
Рунее тут
парываў творчых
рунь
і нават там,
дзе ня было
і пашы...
Хай
будуць лепшым помнікам
правадыру
Здабыткі
пяцігодкі нашай.

**Т. Кляшторны**

А ў Вісьле плавае тапелец...
*Я. Купала*

* * *

Кашмарнай цемрай мрок павіс
Над Віслай водблескам крывавым...
Гуляе, значыць, пан-фашыст,
Балюе панская Варшава.

У душнай цемры казэмат,
Нафарбаваўшы кроўю боты,
Вясёл і п'ян фашысцкі кат
Ад шчырай катаўскай работы.

Яго майстэрству шыр і гладзь —
Няма мяжы, няма граніцы...
Бадай няўмелі катаваць
Так нават каты інквізіцый.

А пасьля кожнае начы
І праца лёкаяў старэнных
Балююць слаўна крумкачы
Над месцам шыбініц турэмных.

Ды ў голас ім „сьвятая раць"
Пад дымнай шыльдай „алілюя"
Благаславіўшы катаваць
З амбону літасьцю гандлюе...

. . . . . . . . . . . . . .

Крывавай цемрай мрок павіс
Над Віслай блізіцца навала... -
Гуляй да часу пан-фашыст —
Прыслужнік пана капітала.

Гуляй!..
Пад гоман хваль ліхіх
Табе гуляць не так багата...
Ня хопіць шыбініц тваіх,
Ня хопіць пораху і катаў...

. . . . . . . . . . . . . .

Паны-фашыстыя ваш пан,
Пан-капітал ідзе да скону...
Грыміць нястрыманы вулькан
Пад вашым чорным рубіконам.

Не абароняць рубікон
Ні крыж, ні турмы, ні гарматы,—
Усіх ня возьміце ў палон,
Не замуруеце за краты.

Хай дзікай цемрай мрок павіс
Над Віслай водблескам крывавы...
Усё да часу пан-фашыст,
Да часу панская Варшава.

Да часу ў цемры казэмат,
Нафарбаваўшы кроўю боты,
Вясёл і п'ян фашысцкі кат
Ад шчырай катаўскай работы.

22. X. 1931 г.

Янка Купала

## УДАРНІКУ

Рабочым і калгасным
Працоўным калектывам
Ад партыі і ўраду
Такая дырэктыва:

Па цэлым па Саюзе
Бяжыць хай пераклічка:
Ўраўнілаўку руйнуйце,
Касуйце абязьлічку!

Вядзеце працу зьдзельна
На фабрыцы, на полі,
Лятун каб і прагульнік
Там ня гулялі болей!

Каб нашы прамфінпляны,
Кампаніі, наказы
Спаўняліся дакладна,
Як вока мірг, адразу!

Каб і апартуністы —
Ці левы ён, ці правы —
Ня мог прыносіць шкоды
Для ленінскае справы!..

Ударнік чуе гэта:
Ён, як на барыкаду,
Вядзе на штурм прарываў
Ударную брыгаду.

Пашлі — йдуць брыгадзіры,
Працуюць нясупынна;
Іх спатыкае ўдзячна
Савецкая краіна...

Менск, 1931, сьнежань.

Янка Купала

## ЗАЎСЁДЫ НАПЕРАД!

Ты слухай-паслухай,
Таварыш і брат:
Заўсёды наперад!
Ніколі назад!

Глядзі — во імчыцца —
Жыцьцю на пралом —
Па полі, па пушчы
Віхор-буралом.

Як віхры машыны
Бягуць па зямлі;
Па моры па сінім
Плывуць караблі.

У моры, ў вазёры,
Палошчучы муць,
Крыніцы і рэкі
Цякуць і цякуць.

Арлы-самалёты
Сьвідруюць прастор,
Ня знаючы ў лёце
Ні меж, ні разор.

Заўсёды наперад!
Ніколі назад!
. . . . . . . . .
Во гэтак, няйначай,
Таварыш і брат!

Менск, 1931, сьнежань.



Васіль Кудраўцоў

## РЫТМ ДЗЁН

Вёска, вёска — радзімы прытулак.
Дзіўнай песьняй ты зараз зьвініш;
Кожны двор твой і брудны завулак—
Адбіваюць рытмічныя дні.

Кожны дзень усьміхаецца новым,
Кожны дзень стукацяць цесьляры,
Падымаюцца стройныя бярвёны
Да зьмярканьня зьвіняць тапары.

І глядзіш, як у строй станавяцца
Зруб за зрубам, вянец да вянца.
Колькі-ж будзе будынкаў ствараццa
Тут, дзе ўвосень бурлівіць вясна.

Толькі чутна, як рэха раскатам
Адгукаецца ў ціхім бары...
Вёска сёньня будоўляй занята
Адбівае рытмічныя дні.





Міхась Зарэцкі

## ПАЧАТАК ШЧАСЬЦЯ

(Апавяданьне)

1

І вось пашла Галенка на рэчку плацьце праць.

Ішла Галенка паволі, зважна, ёмка наспружыніўшы стан пад цяжарам каромысла. Гэты цяжар дзівосным чынам надаваў ёй лёгкасьці і радаснага спакою: яна хоць трошачку, хоць адным куточкам свайго сэрца чула сябе праўдзіваю жонкаю і гаспадыняю. Каромысел быў лёгкі, але Галенцы ён бяз меры цяжкі, бо яна хацела гэтага.

На рацэ плаваў, куляўся густымі камлыгамі халодны белы туман. Быў ён зусім нечаканы і недарэчны ў агульнай яснасьці надвячорка і таму здавалася, што ўвесь гэты восенскі холад, усю гэту сьцюжу прынёс ён—стары ды такі гарэзны туман. І вада сьцюдзёная—аж пячэцца—таму, што плыве з-пад яго ледзяной барады.

Галенка, яшчэ ня здымаючы з плеч каромысла, ступіла босай нагой у празрыстую плынь і ўраз адхапілася, здрыгануўшыся ўсім целам. Тады, нібы раздражненая гэтым калючым дотыкам сьцюдзёнай вады, рашуча скінула з плеч бялізну, падаткнула высока спадніцу і, шумна шчубоўкаючы нагамі, увайшла да кален у раку.

Звонкі размашысты гук праніка канчаткова разбадзёрыў Галенку, узьнёс яе ў нейкай няяснай, але дужа вострай радасьці. І біла яна ім, як сілы хапала, гонка напружваючы ўсё сваё маладое дужае цела, радая, што настойны голас яе працы разьлягаецца ўва ўсе бакі, на ўсю ваколіцу.

Пранік, вядомая рэч, разумеў і падзяляў Галенчын настрой, і выбіваў ён сваімі ёмкімі ўдарамі, бязумоўна, тое, чым жыла Галенка і што павінен быў ведаць цэлы сьвет.

— Гэй, чуеце, людзі — вы, недарэкі!.. У Галенкі ёсьць добры прыгожы разумны малады муж, а Галенка — спраўная, працавітая жонка і гаспадыня!.. Пэўна, што так! Бачыце, як яна спрытна завіхаецца каля плацьця, як стараецца, каб дагадзіць свайму любаму мужыку!..

Раптам Галенка сунялася і пранік недалужна зьвіс у яе ў руцэ. Па беразе, пад яе бок, гнала карову яе матка. Галенка спалохалася, убачыўшы матку, і зараз-жа засаромілася свайго мімавольнага страху. Гэта-ж па-праўдзе сорам — баяцца сустрэчы з маткай!

Хмуры цень запляміў Галенчын настрой.

— Дачушка! Каб не застудзілася ты, маё дзетухна. Гэткі холад!

— Дармо, мамка, я не баюся...

Матка глядзіць на дачку з балючай спагадай, і дачцэ баліць ад гэтага, і з доччынай любасьцю да маткі сплятаецца дрэнная ўпартая злосьць.

„Што яна да мяне мае?“

Матка пераводзіць погляд на Галенчына плацьце—той самы ціхі спагадлівы погляд. У вадзе паскуднай шмоткай боўтаецца сарочка—на сарочцы паміж рубцоў ды лапікаў — вялізная незашытая дзірка. Моʻ яе ўжо й зашыць, дык рады не дасі?

Матка ўздыхае.

— Ах-ха-ха!.. Калі тое жыцьцё настане? Абнасіліся, абшарпаліся... Дзетухна маё любае...

І пагнала далей карову, з старэчай павольнасьцю махаючы даўгім рабраватым дубцом.

Галенка глядзіць ёй усьлед, занядбаўшы работу, — твар у яе спахмурнеў і вочы наліліся сьлязьмі. Сьвежы ветрык прыляцеў з пагаслых даляў і зьнецейкі хапіў яе за голыя мокрыя ногі. Яна закусіла губу і, праглынуўшы сьлёзы, панура схілілася над дзіравай сарочкай.

На раку асядаў ужо няпрытульны халодны змрок.

2

А чый-жа лён пад балотам?
Заросшы ён увесь травою,
Увесь травою-лебядою,
Макрыцаю, павіліцаю...

На гарэ за рэчкаю, за кудлатым густым хмызняком калгасныя дзеўкі палолі лён. Гэта было ўлетку, у чэрвені месяцы. На жаўтлява-зялёным празрыстым фоне маладога лёну буйнымі сінімі зоркамі красавалі васількі.

...Ці ёсьць што прыгажэйшае ад гэтага мяккага, бязьмежна лірычнага злучэньня фарбаў: сінія-сінія васількі ў кволым жаўтлява-зялёным лёне?

(Васількі трэба, полячы, рваць, бо гэта—благое зельле).

Галенка тады палола лён з калгаснымі дзеўкамі. Калгас іхны бадай што цалком перайшоў на тэхнічныя культуры—у самы прыпар поліва не хапала процоўных рук, дык наймалі.

Працаваць гуртам было весела, а калі дзеўкі вясёлыя, дык яны знойдуць хоць якую прычэпку, абы шчыра і гучна, на ўсё поле, рагатаць, вішчэць, выкрыкваць раптоўныя, выштурхнутыя з нутра непераможным імпэтам, прыпеўкі.

Ой, як слаўна, як радасна працавалася тады Галенцы!

Апаўдні залучыў быў да іх старшыня калгасу і яшчэ з ім адзін— высокі, чорны, з каротка-падстрыжанымі сьмешнымі вусікамі. Яны раптам вылезьлі на іх з хмызьняку, і крайняя ад кустоў дзяўчына ў наўмысным спалоху адшаснулася ў бок.

— Авой, цыган! Яй-богу, цыган!..

Дзеўкі ўзьнялі нясусьветны вэрхал.

— Цыган! Цыган!

А суседка Галенчына штурхнула яе пад бок і шапарнула на вуха:

— Прыгожы, на яго ліха!

І Галенцы прыкра было чамусьці, што дзеўкі сьмяюцца з гэтага прыгожага мужчыны. Яна дасадліва зморшчыла лоб і сярдзітым вокам узіралася ў незнаёмага чалавека.

А „цыган“—нібыта-што—спакойна падышоў да дзявочае гурмы і запытаў неспадзявана-ціхім прыветным голасам:

— Ну, як дзяўчаткі працуецца, га? Чысты лён які, ай-я-я! Тут-жа й палоць няма чаго!..

Дзеўкі накінуліся на яго дружнай навалай.

— А ты паспрабуй, дык пазнаеш, ці ёсьць што, ці няма чаго.

„Цыган“ завёўся з дзяўчатамі ў жартлівую звадку, а Галенка стаяла ў баку і са злосьці кусала вусны: папершае, чаго яны чэпяцца да яго асвою, а па-другое—ці-ж яму вочы павырвала, што ён і зірку ня кіне на яе, калі яна—хоць у каго папытай—найпрыгажэйшая дзеўка з цэлае вёскі!

Тым часам старшыня калгасу троху ўрачыста, як-т'кі й належыць у гэтых выпадках, зарэкомэндаваў чорнага прыгожага мужчыну:

— Гэта, дзяўчаткі, новы старшыня калгасу. На маё месца... Бо я выяжджаю ў раён...

Дзяўчаты пацішэлі і ўзіраліся ўжо ў „цыгана“ з паважнай цікавасьцю.

Старшыня калгасу дадаў:

— Таварыш Доба.

І таварыш Доба, троху замяшаўшыся, дасадліва махнуў на яго:

— Бінэ! Бінэ!..

З гэтага дазналіся ўсе, што новы старшыня калгасу т'кі па-праўдзе, хоць мо' й ня цыган, асе ўсё роўна „ня наскі“.

На адыходзе Доба зьвярнуў увагу і на Галенку. Праходзячы паўз яе, ён суняўся і апёк яе вельмі выразьлівым зіркам чорных вачэй.

— Замарылася?

— Дзе там! На гэтым не заморышся... Ды яшчэ ў гэткай талацэ... Весела!

І яна какетлівай усьмешкай падкрэсьліла гэтае „весела“.

— Даўно ў калгасе?

— Яшчэ не... Пакуль што не ў калгасе...

І Галенка раптам пачырванела. Упяршыню адчула яна прыкры балючы сорам за тое, што яна дасюль яшчэ не ў калгасе. І сама сабе дзівавала: ці-ж яна адна толькі гэткая? Ці мала хто яшчэ на паасобку застаўся?

Каб заццаць свой дзіўны незразумелы сорам, яна крыкнула звонка да таварышак:

— Дзеўкі! Чаго пасталі! Старшыня новы злуецца!

Доба глядзеў на яе з пагадлівай ласкай.

— Трэба, дзяўчына, у калгас паступаць. У калгасе лепш... Весялей...

І, многазначна ўсьміхнуўшыся на разьвітаньне, зьнік у кустох, пакінуўшы Галенку разгубленую, зьбянтэжаную і злосную.

...Ці думала тады Галенка, што праз якіх тыдні са два гэты чорны прыгожы мужчына будзе ёй проста Касьцюком, а не дык і зусім Касьцючком і што гэтыя сьмешныя падстрыжаныя вусікі будуць поўзаць, як жукі, па яе распаленым твары і так соладка яго ласкатаць?

## 3

Ён прыходзіў позна ўвечары ў іхны маленькі прытульны садок і чакаў яе пад навіслым вецьцем старой яблынкі. Ён заўсёды прыходзіў ушчэнт змардаваны бясконцымі турботамі калгаснага дня, і з глыбокаю асалодай адпачываў, паклаўшы ёй на калены сваю калматую галаву. Яна, працятая новай незазнанай дасюль пяшчотнасьцю, церабіла жорсткія яго валасы і чакала ад яго нейкіх нячувана-салодкіх слоў. Ён доўга моўчкі ляжаў, ўпяўшы шырока расплюшчаныя вочы ў зорнае неба, а тады раптам азываўся:

— Галенка! Колькі гэта - чатыры разы па трыццаць сем?

Галенка вылічала, шэпчучы лічбы, як старанная вучаніца.

— Здаецца, што будзе сто сорак восем.

— Бінэ! За чатыры дні мы скончым палоць. Галенка! А якое заўтра будзе надвор'е?

Галенка ўважна ўзіралася ў чыстае зорнае неба і, ужо з відавочным падступствам, запэўняла:

— Ня йначай, як будзе дождж.

Ён дасадліва торгаў галавой.

— Што, дождж? Драку! Нам ня трэба дажджу!

Касьцюк Доба ад свае роднае мовы, якою мабыць не гаварыў ён праз дзесяць ці болей год, пакінуў сабе гэтыя два словы: „бінэ“ і „драку“ і трымаўся іх з нязьменнай упартасьцю. Першае азначала — „добра“, а другое „чорт“.

Неяк раз тлумачыў Доба Галенцы.

— Я ня цыган, я малдаванін. Мая краіна далёка адсюль на поўдзень. Там цёпла, расьце вінаград, пшаніца, кукуруза. У нас многа вінаграду, кожны селянін сабе робіць некалькі бочак віна і п'е праз цэлы год, як ваду.

Галенцы больш да ўпадобы Касьцюковы апавяданьні пра дзівосную яго бацькаўшчыну, чымся нудныя разьлікі працадзён. І яна з дзяцінай назольлівасьцю распытвае, як у іх там жывуць, якія ў іх хаты, ці прыгожыя ў іх дзяўчаты, ува што яны апранаюцца, ці бываюць у іх ігрышчы, як яны жэняцца, ці гуляюць вясельлі. Асабліва моцнае ўражаньне зрабіла было на яе Касьцюкова апавяданьне пра дзікі звычай, які дзе-ня-дзе яшчэ захаваўся ў іхнай

країне — выкрадаць сабе ў жонкі дзяўчыну. Галенка страшэнна ўпадабала гэты звычай і з таемнай зайздрасьцю ўяўляла сабе, як было-б добра, каб Касьцюк украў яе ад бацькоў.

— Ці доўга ехаць да твае бацькаўшчыны?

— Да мае бацькаўшчыны цяпер не даедзеш—яна асталася за мяжой, пад румынамі. Таму я й бадзяюся вось па сьвеце.

Ён на хвіліну задумляўся і раптам крычаў у зусім незразумелай Галенцы злосьці:

— Драку! У мяне няма бацькаўшчыны! Мне ўсюды—бацькаўшчына!

Траплялася, што й засыналі яны так: яна—прыхінуўшыся плячмі да старой каржакаватай яблыны, ён—паклаўшы галаву на яе цёплыя мяккія калены. А як зачынала зараць, прачыналіся раптам абое і глядзелі адно на адно з радасным зьдзіўленьнем, нібы ўпяршыню пазнаваліся. Тады Галенка моцна прыціскала да сябе яго калматую галаву, быццам хацела затрымаць яго, адарваць ад гэтых вечных нялюбых турбот, што цалком паглыналі істоту яго, не пакідаючы ў ёй жаднага месца для яе, для Галенкі.

І чаго яму гэтак старацца? Бач ты, старшыня калгасу, асэсар вялікі!..

4

Як аставаліся бацька з маткаю сам-на-сам, старая пачынала бубнець у качарэжніку:

— Авой, нахаба! Знайшла сабе набрыдзь — цыгана паганага. Няма ёй людзкага хлопца... Скруціць, збаламуціць, а тады—шукай ветру ў полі... Галеча дзіравая...

Бацька-мужык хітры, спрактыкаваны — трымаўся трохі інакшае думкі.

— Ат! Хай пагуляе па маладых гадох. Хто гэта ня гуляў пад сваю пару? А тымчасам — чалавек не абы-які, начальства ўсё-ткі... Мала што можа прытрапіцца цяперашнім сьветам... Дурная ты, Тэкля!

Апошні аргумэнт гаварыўся тонам катэгарычным, і Тэкля змаўкала, зьдзіўленая глыбокай пранікліваасьцю свайго мужыка.

Галенка пра гэтыя гутаркі нічога ня ведала, ды й гэта мала яе абыходзіла. Яе турбавала іншае: яна чула, што з кожным днём, з кожнай гадзінай ёй усё цяжэй і цяжэй робіцца жыць у роднай сям'і. Пачалося гэта ад тае першае гутаркі з чорным прыгожым мужчынам, ад яе дзіўнага незразумелага сораму. Злосьць, у якой пакінуў быў яе Доба на лёне, трывала ў ёй тады праз цэлы дзень, а як прышла яна ўвечары дахаты, гэтая злосьць, вядомая рэч, вылілася на старую матку.

— Ну, як, дачушка, рабілася там, у калгасе?

Дачушка ашчэрылася, як тхор.

— Лепей, чым тут, на гэтай на *багатырскай* гаспадарцы.

Старая пакорна ўздыхнула.

— Як жывём ўжо, дык жывём. Хлеба кавалак ёсьць, а ў кулакі яшчэ, дзякуй богу, не залічылі...

Злосьць Галенчына аднак не згасала, а яшчэ больш разгаралася.

— Як нелюдзь якая, усё роўна. Чысты сорам! Усе людзі сьмяюцца. Тодаркавы пашлі, Мікалаёнкі даўно ўжо ў калгасе, Матруніны ўжо падалі заяву...

Бацька слухаў усё гэта і маўчаў. Толькі, як селі вячэраць, буркнуў нібы сам сабе:

— Можа-б ужо ў калгазе і павячэрала, ахвотніца наша?

Гэта быў ужо кульмінацыйны пункт. Галенка схапілася з лаўкі і хоць страшэнна хацела есьці, усё роўна пабегла ў клець, дзе стаяў яе ложак, і паклалася спаць, не вячэраўшы. Там убілася тварам у падушку і доўга плакала — троху з крыўды, а больш з нясьцерпнага голаду.

Ад тае пары абрыдла Галенцы і родная хата і родная гаспадарка, і далёкія самотныя палеткі, на якіх у беспрасьветнай нудоце прапаўзла

сёлета ёй за-звычай вясёлая, як сьвята, жніўная пара.

Не сьпявала Галенка ядраназвонкіх жніўных песень, ня віла вянкоў з сініх-сініх, як неба, васількоў. Прыходзіла дамоў зьнясіленая, змардаваная, быццам за траіх рабіла, а сапраўды, дык і таго не нажынала, што нажне іншая няўздольная баба. Прышоўшы да хаты, сядзела, насупіўшыся, як сава — не крані, барані божа!— і адно чакала, каб хутчэй павячэраць ды йсьці ў клець, а з клеці—у сад, пад прытульнае вецьце старой яблынкі.

Маці ўздыхала і бубнела сабе ў качарэжніку.

— Авой, цыганюга пракляты! Зьвёў дзеўку на шчэнт. Што гэта будзе? Што гэта будзе?..

Адылі ў бязьмежнай матчынай пакоры схілялася перад жорсткаю неабходнасьцю і давала новы, больш лагодны кірунак сваёй буркатні:

— Ну, якая гэта дзеўка, крый божа! Не напрала сабе, не наткала. Няма з чым у людзі пайсьці. Божухна-бацюхна...

І, яшчэ раз глыбока ўздыхнуўшы, шаптала ледзь чутна:

— Дзетухна маё любае...

5

Здарылася гэта, як дажыналі ярыну. І так яно вышла раптоўна ды проста, што Галенка ніяк не магла ахамянуцца і ніяк не магла ладу дайсьці, ці гэта дужа ўжо скора насьпела, ці, наадварот, цягнулася няма ведама колькі, змардаваўшы яе, небараку, доўгім прагным чаканьнем.

Адным словам — Галенка вышла замуж за старшыню калгасу, за „цыгана“ Касьцюка Добу.

Грэла тады паціху добрае ласкавае восенскае сонца, плавалі ў паветры срабрыстыя ніці павучыны— мяккія, кволыя, бясьсільна адданыя свайму паднявольнаму лёту, — а з-пад лесу патыхаў на Галенку лёгкі ветрык, прыносячы волкі пах грыбоў і згаслага вогнішча.

За гоняў трое ад Галенкі шырокім радном ласкавалася ў сонцы сьпелая калгасная ярына. Там неўгамоўным гудам гудзелі жняяркі і жвавай мурашкавай плоймай мітусіліся людзі. Галенка раз-по-раз узіралася туды і, здавалася ёй, распазнавала сярод людзей знаёмую высокую фігуру. Агорнутая цяжкім смуткам яна млява схілялася над сваёй самотнай постацьцю і нехаця, ледзь ня плачучы, скубла ўбогае збожжа. Адылі кінула зусім, выпрастала натруджаную сярэдзіну і, глядзячы туды, да тае жвавае грамады, завяла журботную, сьлязьмі прасычаную песьню.

Мабыць пазнаў яе песьню Касьцюк, бо, ідучы з поля, — мог-бы пайсьці на-цяньکі, далёка абмінуўшы яе,—а то пашоў узьлесьсем, проста на яе паласу.

Галенка ў інстынктыўным парываньні схапілася за серп і ўдалася ў шчырую заўзятую працу. Яна і ў той бок не глядзела, адкуль ён павінен быў зараз прысьці, яна ўдавала, што зусім яго не заўважыла.

Ён падышоў і стаяў моўчкі. Глядзеў на яе, усьміхаўся і высьвістваў нейкі сьмешны птушыны напеў. Галенка, ня кідаючы жаць, запытала:

— Што ты моўчкі стаіш, Касьцюк? Скажы што-небудзь хаця...

— Дзень добры, Галенка! Як ты маешся?

Галенка выпрасталася, перакідаючы цераз руку нажатую жменю, і абліла яго сьветлай, сарамліва-какетлівай усьмешкай.

— Дзякую. Замарылася, сярэдзіну ломіць, во...

І яна, нібы паказваючы, як у яе ломіць сярэдзіну, зрабіла рух, які спакусьліва падкрэсьліў пругкую стройнасьць яе маладога цела.

— А ў нашых жней сярэдзіна не баліць. Нашы жнеі лепшыя...

— Дзіва, што лепшыя ў вас! На дрэнных вы й зірнуць ня хочаце.

І яна зноў схілілася над сваёй постацьцю. Доба падышоў і сеў перад ёй у няжаты авёс.

— Куды ты, мядзьведзь!

— Дармо, Галенка, трэба-ж мне на цябе паглядзець. Калі ты кончыш сваё жніво? Мы ўжо сёньня дажнём, далі-бог...

Галенка смутным зіркам акінула сваю паласу.

— Ат, абрыдла мне ўсё... Адна ды адна... Мамка слабая, ня можна ёй жаць...

— Чаму ты ў калгас ня йдзеш?

Галенка раптам раззлавалася.

— Як-жа я ў калгас, калі бацькі ня йдуць? Што я з імі зраблю?

— Ня хочуць—ня трэба. Ідзі адна.

Галенка толькі ўздыхнула і зноў узялася за серп. Як дажалася да Касьцюка, ён схапіў яе за руку і ёмка пасадзіў да сябе ў авёс. Галенка піснула, адылі прыгарнулася да яго з віdочнай ахвотай. Ён моцна абняў яе і загаварыў сьцішаным ад узрушэньня голасам:

— Помніш, Галенка, як у нас жэняцца, га? Вось так схопяць дзяўчыну ў бярэмя ды й ходу... га?.. Ці хацела-б, Галенка, каб я цябе ўкраў? Пойдзеш са мной у калгас, і бацькі нам ня трэба будуць... І сярэдзіна ня будзе балець. Ну, як, згодна?

Галенка зірнула на яго шырока расплюшчанымі вачмі, з якіх плыло цэлае мора розных пачуцьцёў: там была й радасьць, і недаверра, і страх, і надзея, і каханьне, і смутак і яшчэ няма ведама што.

— Ты, Касьцючок... ты хочаш, каб замуж?.. я?.. за цябе?..

Касьцюк засьмяяўся і папоўз ёй па шчацэ ласкатлівымі сваймі вусікамі, дабіраючыся да вуснаў.

— Ты, Касьцючок... гэта сур'ёзна?

І яна нават адхіліла яго ад сябе, каб прасьцей і глыбей зазірнуць яму ў вочы.

— Ну, што ты, Галенка! Пэўна, што сур'ёзна. Ну, бінэ?

Далей былі ўжо пацалункі і іншыя выяўленьні пяшчотнасьці, якія бываюць за-звычай у каханкаў, паміж якіх аб усім дамоўлена.

Такія былі заручыны ў Галенкі і ў старшыні калгасу Касьцюка Добы.

6

Порад Галенкай паўстала пышная пэрспэктыва раптоўнага шчасьця. Па-першае, яна вызваліцца ад бацькоў, па-другое, яна будзе калгасьніца, а па-трэцяе... па трэцяе, у яе-ж будзе ўсё-ткі нейкая свая—хоць маленькая зусім, хоць зусім малюпасенькая гаспадарка. Яна будзе — жонка і гаспадыня...

У Добы ў вялікім і на-дзіва няпрытульным пакоі стаяў саматужны ложак на козлах, стол з нейкае фанэрнае скрыні, на стале—грудок кніжак, пад сталом, замест ножак, невялічкі куфэрак і на сьцяне вісеў пажоўклы партрэт правадыра. Доба ўвёў Галенку ў свае апартамэнты троху замяшаны і ад парогу зрабіў хоць і шырокі, але ня зусім упэўнены жэст.

— Вось і ўся мая гаспадарка. Зусім, як на паходзе. Бачыш Галенка?

Чаму-ж яна ня бачыць? Бачыць, добра бачыць. Але яна не гарue: не такая яна ўрадзілася. Абы было за што рукі зацяць А рукі зацяць будзе за што — няпраўда!

У той самы дзень яна пайшла да бацькоў і прывалакла адтуль парсючка, дзьвюх курак ды пеўніка. Адылі гэты жывы інвэнтар не пашоў на добры лад: парсючок назаўтрага зьбег, вярнуўшыся на сваю бацькаўшчыну, а адважны певень, падаўшыся ў романтычную авантуру, перайшоў сам і перавёў сваіх курак на сумежны двор, дзе мясьціўся калгасны птушатнік. Там яны ўсе дабраахвотна абагуліліся.

Касьцюк Доба катэгарычна забараніў Галенцы ані йсьці да бацькоў па ўцекача ані спаганяць птаства з калгаснае інстытуцыі. Гэта была першая пляма ў няўкорна-чыстых адносінах паміж маладымі.

Стала Галенцы тады пуста ў жыцьці. Хадзіла яна штодня на калгасныя работы—там у грамадзе дзяўчат, яе таварышак, за дружнай калектыўнай працай было ёй весела і спакойна. Але досыць было ёй успомніць пра пусты свой пакой, пра двор, на якім з нахабна-задаволеным выглядам гуляе чужая жыўнасьць, нібы наўмысьля напамінаючы ёй пра яе ўбоства,—і ў сэрцы ў яе пачынаў тачыць ліхі атрутны чарвяк, і вясёлы настрой яе ападаў, як лёгкая пена на гарачай вадзе.

А найгорш было, што ёй не даводзілася нават гатаваць у хаце, бо харчаваліся яны ў нова-пабудаванай калгаснай сталоўцы. Ня мела Галенка, як дагадзіць свайму Касьцючку, паказаць яму сваю шчырасьць і адданасьць. Ня мела яна, як сустрэць яго—змардаванага—у цёплай прытульнай хаце з гарачай капустай у печы, з пульхнымі смачнымі ладкамі. І ня меў ён, Касьцючок, як пераканацца, што ягоная Галенка—дармо, што зусім маладзенькая!—а добра патрапіць напеч і ладак, і бліноў, і пірагоў нават, абы было з чаго.

Усё йдзе без яе, нібы й ня жонка яна, не гаспадыня!

І пачула сябе Галенка лішняй у хаце.

— Нашто я яму? Ці я дагледжу яго, ці я накармлю яго, напаю?.. От, проста, як дармаедка якая...

Вярнуўшыся з працы, Галенка бяз конца сноўдалася па хаце, перастаўляла з месца на месца рэчы, перасьцілала ложак, перацірала стол, вокны—рабіла ўсё гэта мэханічна, бадай несьвядома, як аўтамат. Сядзела перад вакном і доўга глядзела ў яго, чакаючы Касьцюка. А Касьцюк прыходзіў позна ўночы, апанаваны плоймай турбот, якія ёй, Галенцы, былі чужыя і нават варожыя.

Часам прыходзіла матка і канцом раструйвала доччына сэрца. Сядала на ўслончыку, падпірала рукой бараду і ўздыхала.

— Палуднуеце, дзеткі, у сталоўцы?

— Ага, мамка! Там добра кормяць і клопату ніякага. Сеў—табе й пададуць і прыбяруць.

— Так, так, дзеткі. Пэўна, што так... Дык ходзіш рабіць у калгаз?

— Хаджу, мамка.

— Ці плоцяць-жа табе хаця там?

— Чаму-ж не? Яшчэ, праўда, не плацілі, але потым адразу, як падрахуюць усё.

— Так, так, дзетухна...

Старая ўздыхае і крытычным вокам азірае пакой, сунімаючыся на ўбогай, пашарпанай адзежы маладых.

— Даюць-жа вам у калгазе крамніну якую, ці што?

Галенцы ўжо ня-ў-суцерп. Яна балюча кусае губы, адылі гаворыць бадзёра, жвава, пераказваючы Касьцюковы словы:

— А вось зьбяром лён, пашлём аго на фабрыку, там з яго палатна наткуць і прышлюць нам назад. Мы ім лён, а яны нам мануфактуру.

Матка пакорна ківае галавой і зноў бярэцца ўздыхаць, і ад гэтых яе спагадлівых уздыханьняў у дачкі крывёй абліваецца сэрца. А йдзе старая з адведзін усё-ткі нібы заспакоеная (ня жаліцца дачка, значыць—здаволена) і толькі, ідучы, бурчыць сабе пад нос, няўцямна ківаючы галавой:

— Хто іх разьбярэць, цяперашнім сьветам, дзе ёй каторай добра, а дзе дрэнна...

7

І вось прышла Галенка з рэчкі да хаты. Ад бадзёрага лёгкага настрою, з якім ішла яна плацьце праць, не асталося й сьледу. Яна йшла назад пахмурая, вялая, і каромысел ужо сапраўды быў цяжкі, аж недалужна гнулася пад ім яе пругкая постаць.

Зямлю агарнуў жорсткі сьцюдзёны змрок. Ад рэчкі гнаўся за Галенкай сіберны вецер, хапаў яе за голыя ногі, абгортваў іх мокрым

падалом спадніцы, і Галенка калацілася ўся, як у трасцы.

Прышоўшы да хаты і сяк-так, на скоры пасьпех паразьвесіўшы на гары бялізну, Галенка ўвайшла — зморыная, скалелая — у свой пусты няпрытульны пакой. На парозе вецер задуў газоўку і яна не паліла яе. Села пад вакно і застыла ў тупым сузіраньні густой непрагляднай цемры.

У хаце таксама сьцюдзёна. Трэба прапаліць грубку, але Галенцы ня змога ўстаць, страпянуцца з свайго панурага здрантвеньня.

Сумна-сумна... Каб хоць скарэй прышоў Касьцюк! Але—дзе там! — прыдзе, можа, апоўначы. Пакуль набегаецца там са сваімі справамі.

У Галенчыным сэрцы памалу расьце крыўда на Касьцюка разам з пякучым жалем да сябе.

Нашто яна яму? Што ён ад яе мае, чым яна цікава яму? Каб кахаў, дык бы пэўна прыходзіў раней, А то... Брэша, не кахае, ані не кахае!..

Галенцы хочацца плакаць і хочацца жаліцца каму-небудзь. У ваччу ўстае старая маці — глядзіць на яе з любасьцю і спагадай. Добрая, даражэнькая мамка! А яна, дурная, злуе толькі на яе, ня любіць яе. Дурная, па-праўдзе, дурная!.. Мамка лепшая за Касьцюка.

Але вось нехта ляпнуў у сенцах клямкаю, і сэрца ў Галенкі радасна страпянулася.

Ён, напэўна, ён!

Касьцюк увайшоў і запытаў зьдзіўленым голасам:

— Галенка, ты тут?

— Тут, Касьцючок!

— Чаму ты сядзіш у цемры? Чаму ня паліш сьвятла?

— Ат. Што я буду рабіць?

І ў гэтых словах мімаволі выліваецца Галенчына крыўда і нездавальненьне. Але Касьцюк не заўважае гэтага. Ён запальвае лямпу і раскладае на стале цэлы пак папер.

У Галенкі пахаладзела на сэрцы: ён зноў цэлую ноч будзе працаваць, забыўшыся на яе і на ўсё на сьвеце! І калі, упарадкаваўшы свае паперы, Касьцюк сядае каля яе і ласкава яе абнімае, яна пяшчотна туліцца да яго і шэпча:

— Касьцючок! Давай ляжам спаць сёньня. Зараз... Добра? Я так скалела на рацэ...

Ён цалуе яе і мякка, але разам з тым катэгарычна адказвае:

— Не Галеначка, не... Заўтра пасяджэньне праўленьня, і мне абавязкова трэба скончыць гадавы плян. Заўтра будзем абмяркоўваць. Каб ты ведала, Галенка, што ў нас за пляны? Ай-яй-я! Мы з нашага калгасу зробім такую гаспадарку, што ўсе задзівуюцца. Не гаспадарка, а камбінат! Разумееш?

Дзіва, што яна разумее!

— Зноў усю ноч будзеш сядзець?

— Ды не, гадзінку якую. Ты кладзіся, Галенка, сьпі... Бінэ?

— Бінэ, бінэ...

І Галенка, троху насупіўшыся, ідзе рыхтаваць сабе халодную самотную пасьцелю.

8

Ужо далёка за поўнач.

Старшыня калгасу Касьцюк Доба сядзіць над гадавымі плянамі калгаснае гаспадаркі. У яго вочы чырвоныя ад зморы й бяссоньня, калматыя валасы пазьвісалі на лоб бязладнымі пасмамі, а на пальцах ды на барадзе красуюцца барвістыя плямы ад чарніла. Ён ня чуе і не прымячае ані чырвані ў вачох, ані валасоў на лобе, ані плям чарнільных на барадзе. Ён бачыць іншае...

...Суцэльнымі бязьмежнымі масывамі калышацца зялёнае мора высокага чыстага лёну. І там, на гарэ, і пад балотам, і абапал ракі—скрозь адно мяккае празрыстае зяляніва.

...Вось яно пачынае жаўцець, высьпяваць, вось ужо абярнулася ў цёмна-масяндзовую поўсьць, па якой поўзаюць дзівосныя машыны. Ён яшчэ ня бачыў ніколі гэтых машын, толькі чуў пра іх, і яны ўяўляюцца яму нечым падобным да тараканаў.

...А там, у баку, гоніць у неба клубы густога чмарага дыму лёна-завод, дзе драцяністае цыбальле лёну абарачаецца ў шаўкавяна-мяккі бялюткі кужаль, у вялізныя пакі гэтага цудоўнага кужалю, якія бясконцай чарадой коцяцца з брамы заводу і жвава, куляючыся, як гарэзныя дзеці, бягуць па абшару краіны, каб вярнуцца назад даўжэзнымі пасамі тонкага далікатнага палатна.

...У калгасе сьвята... Усе—чыстыя, прыбраныя, апранутыя ў тое цудоўнае палатно, што вышла з іхных зялёных палеткаў, з іхнае дружнае калектыўнае працы. Усе — сытыя, здаволеныя. Граюць, пяюць, вясяляцца. І спаміж усіх найвесялейшая ды найпрыгажэйшая — ня йначай, як яго Галенка. Яна бясконца радая і шчасьлівая. Яна не наракае на яго, на Касьцюка, што не кладзецца разам з ёй спаць (быццам ён ня рад быў-бы гэта зрабіць!), яна ганарыцца ім, бо ведае, што гэтаму ўсіхнаму сьвяту і ён хоць на каліва спрычыніўся.

...А далей... далей...

Але-ж усё гэта некалі будзе, а пакуль што на стале ляжаць няскончаныя пляны, якія заўтра канечна трэба абмеркаваць на праўленьні і зараз-жа даць ім далейшы ход.

Найгорш гэтыя лічбы! Яны такія няслухмяныя, такія ўпартыя — ніяк не саўладаць з імі неспрактыкаванаму ў гэтай справе Касьцюковаму розуму. Скачуць у галаве, як блохі, а хоць сплятаюцца ў неразьвязназаблытаныя клубкі.

— Сем па сем будзе...

Зусім атлуміўся.

— Колькі будзе сем па сем?..

У галаве тупая пустэча. Мусіць таму, што ня спаў.

— Колькі-ж гэта — сем па сем? Сем па сем... Сем па сем... будзе...

І ў самае вуха яму ўлятае цёплы ласкавы шэпат:

— Сорак дзевяць... Касьцючок, сорак дзевяць...

І шыю яго аплятаюць гарачыя рукі, абдаючы яго салодкім пахам здаровага цела.

— Галенка! Ці ты ня сьпіш?

— Я зусім ня спала яшчэ, Касьцючок. Я скрозь глядзела, як ты працуеш. Як ты змарыўся, любы! А які ты вясёлы быў, аж сьмяяўся сам сабе...

І, тулячыся да яго, нясьмела просіць, нібы саромячыся свае просьбы.

— Пакажы мне, Касьцючок, што ў цябе тут. Я-ж пісьменная...

Касьцюку толькі гэтага й трэба. Ён бярэ яе да сябе на калены і яны разам пачынаюць разглядаць плян калгасу.

— Во... бачыш, Галенка? Тут ты палола лён... тады, помніш? Вось тут—рэчка... тут—лес... тут во... во тут... памятаеш?.. як ты жала...

І Касьцюк слова за словам пачынае раскрываць перад Галенкай свае вялікія сьмелыя пляны. Ён ажывіўся, сон ад яго адляцеў няма ведама куды, вочы гарадь жвавым агнём. Нават лічбы і тыя сталі слухмяныя — строяцца ўраз у зладныя калёны, гатовыя да паслуг.

Галенка слухае яго, зацяўшы дух. Ягоны запал памалу заражае й яе, яна перажывае разам з ім цудоўнае захапленьне, і ёй радасна, лёгка на душы. У яе родзіцца прагнае жаданьне — дапамагчы яму. Хоць трошачку, хоць у чым у маленечкім. Каб ён ведаў, каб чуў, што яна таксама цікавіцца, што гэта ёй—ня чужое.

Ляцяць хвіліны, як быстрыя іскры. Паволі, але станоўка сунецца наперад глухая шчытная ноч. Сон-небарака канчаткова вылецеў з хаты.

—...а тут, Галенка, будзе добрая саша, якая злучыць нас з чыгуначнай станцыяй. Тут будзе вялікі сад... і тут таксама... Тут мы паставім новую школу...

І, абмаляваўшы жывымі яснымі фарбамі карціну недалёкае будучыні калгасу, Касьцюк Доба заключае ўсё шырокім жэстам пераможцы:

— Дык вось, Галенка, якая будзе нашая гаспадарка... Бінэ?

Галенка глядзіць на яго вялікімі зачараванымі вачмі і ціха шэпча за ім апошнія словы:

— ...якая... нашая... гаспадарка...

І раптам — няма ведама з чаго — абшчапіла Галенка свайго Касьцючка за шыю, моцна прыціснулася да ягоных грудзей і голасна, на ўсю хату заплакала.

Адылі сьлёзы былі лёгкія, небалючыя, бо гэта быў пачатак праўдзівага Галенчынага шчасьця.

Рыгор Хацкевіч

## АБМАЛОТ

З нясьціханым,
Разьмераным тактам
Цэлы дзень,
Ад цямна да цямна
І гудзе, і калоціцца трактар,
Нібы хоча сарвацца з гумна.

Тра-та-тах —
Тра-та-тах...—барабан
завывае,
грукоча няспынна.
Адчуваюць снапы на зубах
Перамогшую сілу машыны.

Гоман... гуд...
За снапамі снапы
Пержоўваюць вострыя зубы
Скора-скора
Н'ат назву „цапы"
Мы забудзем, як даўнюю згубу.

* * *

Вось калгасьнік крычыць барадаты
Так,
Як сілы хапае крычаць:
— Гэй, цішэй падавайце,
Дзяўчаты,—
Не ўсьпявае машына глытаць. —
Гэта з нашай ударнай брыгады,
Камсамольскай і
Баявой
Перагналі машыну дзяўчаты,
Перагналі машынны развой.

Гэтак радасна.
Добра і весела.
Насыпаю ў мяшкі ўраджай.
За стагамі абноўлены верасень
Ураджайную восень раджаў.
. . . . . . . . . . . .

А назаўтра,
Марозістым ранкам,
Пад вітаньне
Бялёсых бяроз,
Ад гумна,
Дзе гула малатарка,
Пацягнуўся чырвоны абоз.

Гаманілі асеньняю мовай
Залатыя прысады наўсьцяж,
І здалёку —
за сіняй дубровай
Паласкаўся
Рабінавы сьцяг.

**Ал. Дудар**

* * *

Гэты край, срыброны палынамі,
апавіты цьмой,
чараваў вякі сваім маўчаньнем
ды сваёй жальбой.

За яго працьвілыя балоты,
за каўтун гнілы,
не адзін цабэрак дабрахвоты
сьлёзак пралілі.

Смакавалі паясы, тканіны...
І не разабраць —
ці ім сьніўся вобраз Гэдыміна,
ці цара Пятра.

А любілі поглядам спакойным
паглядзець у прыжмур,
дзе у панскіх утапіўся гонях
гарапашны шнур,

дзе, паўз радзівілаўскіх раздольляў,
бедныя сяўцы
абміналі з беспатольным болем
грозныя капцы.

Але хто сказаў бы, што шырэй там —
межы, ці палі —
дзе цьвілі спрадвеку буйным цьветам
быльнік ды палын?

* * *

Дні прышлі — гадамі іх ня зьмерыць,
гэтакія дні:
ў барацьбе ўзьнялі да новай веры
гэты край яны.

Панад краем грымнуў гулкі покліч.
І яго я зноў
абышоў з зарніцай шпаркай поплеч,
з ядранай вясной.

Тая-ж шыр, бяз краю, без граніцы,
тая-ж далячынь.
Але ўсюды пры дарогах ніцма
Паляглі капцы!

Дабрахвоты недзе пазьбягалі:
на далёкі шлях
адхляснула іх крутою хваляй
гнеўная зямля.

Ім адходную прапелі войны.
Гэта іх нагі
сьлед—на могільнікавых адхонах
шэрагі магіл.

А сяўцы, выходзячы на поле
з новаю сяўбой,
ня турбуюць Юр'я ды Міколу
марнаю мальбой.

Але, лоб сабраўшы ў маршчыны,
мудрыя дзядзькі
разважаюць, як купляць машыны,
колькі і якіх.

А пакуль што Гнедкаў заняпалых
ад канцоў сяла
аб'яднаны і для працы склалі
калектыўны плян.

Павязалі вязь шнуроў маркотных
ў радасную шыр,
выгналі вясковых жываглотаў
на халодны жвір.

І здалёку, ад муроў фабрычных,
ад чырвоных зор,
паплылі цуркі рабочай звычкі
у вязьмо разор.

Адвучыліся сяўцы схіляцца
тоўстай каліце
Ўжо й пастух сваіх спрадвечных
лапцяў
болей не пляце.

І балота век свой дажыло ўжо:
на пацеху ўсім
разраслося на балоце збожжа,
загулі аўсы.

І ў лясы, што прамаўчалі згодам
цэлыя вякі,
ўрэзаліся маладых заводаў
звонкія гудкі.

Гэты край, спавіты палынамі
і рызьзём амшар,
на вачох ва ўсіх з дня ў дзень
мяняе
старажытны твар.

І над гмахам ад закляцьця-чараў
вызваленых ніў
заняліся полымем-пажарам
маладыя дні.

**Сяргей Грахоўскі**

## ГІДРАСТАНЦЫЯ

Ноч зялёная.
  ільды,
    ільды,
      ільды.
Сінь у неба цячэ з каўша даўга-
  хвостай „мядзьведзіцы“
Месяц коціцца з хмар,
Як пасьпелая жоўтая дыня,
бы ўпасьці ў бель сьнегавую ме-
        ціцца.
Ноч.
За горадам белы асьнежаны пра-
        стор;
Скрозь
  ільды,
    ільды,
      ільды
а праз сьнежную бель туга, туга
        працёг
медзяныя манцёр праўды.

* * *

З пад таўшчэрных пластоў
скамянелага льду,
  цераз застаўкі,
    цераз плаціны
      і
      палі
нястрыманы напор вырывае ваду
і ля ставаў грымяць
на марозе халодныя хвалі.
Гэта моц карпусоў,
  правадоў,
    трансфарматарных будак,
а ўнутры іх стукоча
  шалёная сіла—
    ток.

Тут турбіны і шчоткі працуюць
      мільёны сутак
бесьперабойна,
  няспынна,
    неакрэсьлены срок.
Хто?
Хто зморыць вады імклівасьць?
А праз гладзь сьнегавую імчыцца
        ток;
азьвярэла ваграні равуць
  і ляцяць саматасы і шківы,
а праз гладзь сьнегавую імчыць
      палымнеючы ток.
Гэта сіла,—
  што разам з людзкаю сілай
сэрца рухае нашай краіны усёй,
і як кроў надзімае індустрыі тоўстыя
        жылы,
ваґанеткі імчыць
  і цэмант на вышынь карпусоў.
Гэта сіла—
  упартая воля мільёнаў,
торфу,
  вугалю,
    рук
    і вады.
Гэта сіла эпоху наперад гоніць,
Гэта сіла узводзіць над багнаю
        гарады.
. . .ноч глядзіць
  з пад шырокае чорнае мантыі.
і гудуць медзяныя напнутыя пра-
        вады—
Гэта ня млын—
  тэта гідрастанцыя—
сіла розуму,
  рук
    і вады.

С. Куніцкі

# ДЗЕСЯЦІГАДОВЫ ТВОРЧЫ ШЛЯХ ПАЭТЫ

(Нататкі пра творчасьць Андрэя Александровіча)

У канцы 1931 году пралетарская грамадзкасьць БССР адзначала 10-ці гадовы юбілей літаратурна-грамадзкай дзейнасьці свайго паэты Андрея Александровіча.

Творчы рост А. Александровіча— ёсьць прыватнае выражэньне агульнага росту беларускай пралетарскай літаратуры пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Яго творчасьць ёсьць выражэньне таго, што пралетарыят, на аснове лініі камуністычнай партыі, на аснове ленінскай нацыянальнай палітыкі, можа і стварае сваю культуру, сваё мастацтва, сваю літаратуру.

Творчасьць А. Александровіча неразрыўна зьвязана з пасьпяховым працэсам сацыялістычнага будаўніцтва на ўсіх франтох. Яго творчасьць неразрыўна зьвязана з ростам беларускай сацыялістычнай прамысловасьці, з культурна-палітычным ростам беларускага пралетарыяту, з ростам беларускага пралетарскага гораду. Яго творчасьць вырастала і расьце ў адзінстве з гэтым працэсам, яна загартоўвалася, праз актыўны ўдзел у ім (працэсе), у сапраўдную бальшавіцкую творчасьць.

Аднак, было-б памылковым сказаць, што творчасьць Александровіча з самых першых дзён, з першых год яго літаратурна-мастацкай дзейнасьці зьяўляецца цалкам пралетарскай творчасьцю, што яго творчасьць на працягу 10 год аднолькава, адпаведна працэсу пралетарскай рэвалюцыі, выражала ідэі пралетарыяту.

Творчасьць А. Александровіча першых год выражала сабой дробна-буржуазныя ідэі. Рэчаіснасьць, працэс пралетарскай рэвалюцыі, наша будаўніцтва ў першыя гады сваёй творчасьці А. Александровіч адлюстроўвае як нешта неарганізаванае, анархічнае. У гэты час рэчаіснасьць ён успрымае ў паасобных адарваных зьявах, фактах, ня ставячы ў сувязь апошніх з агульным працэсам.

У першыя гады мы ў паэты амаль зусім ня бачым чалавека, які перятварае жыцьцё, які на тым ці іншым фронце будаўніцтва змагаецца за ідэі рэвалюцыі, ідэі рабочае клясы, а бачым захапленьне машынай, надворным выглядам фабрыкі, заводу, гарадзкой вуліцай, горадам наогул.

Машына часамі засланяе чалавека. Яна сваім скрогатам, гулам запаўняе гарадзкія вуліцы, утварае шум.

„Вечны“ гул ня спыняе лізаць камяніцы,  
вочы глытаюць рэклямы вітрын.  
Гадзільнік спакойна на менскай званіцы  
б'е глухім звонам дванаццаць гадзін.  
Як зьвяры, песьняй сталі скрыгочуць машыны.  
блудніцай бегае сонца ля сьцен.  
Скрага—жыцьцё, каб ня страціць хвіліны,  
конна імкнецца шукаць сабе зьмен“.  
(1923 год)

Горад паэтам успрыймаецца, як нейкая нястрыманая стыхійная сіла, дзе бурліць няўпынна жыцьцё, дзе жыцьцё „конна імкнецца шукаць сабе зьмен“.

Паэта ў першыя гады не пранікае ў глыб гэтага жыцьця. Але разам з гэтым яму гэта бурлівае

жыцьцё блізка, бунтоўнасьць, стыхійнасьць яго захапляе. Ён гэтаму жыцьцю падпявае, зьліваецца з гарадзкой бунтоўнасьцю, гарадзкімі гульбішчамі. Калі шуміць гарадзкое жыцьцё, вецер рве вакяніцы,

„А па вузкіх, брудных вуліцах,
ліхтароў сьвет цалуецца з лужамі.
Вакяніцы да сьцен бліжэй туляцца,
вось мо' вецер сарваць і ня здумае...“

Паэта ў гэты час падпявае:

„...Эх, гульбішчам такі я прыяцель
разам з ветрам зрываў-бы вакяніцы,
бо такою гульнёю-багацьцем
ўспаміны ў грудзёх крынічаць“..

Паэта ў гэтай стыхіі адчувае сябе з моцнай сілай, якую не баіцца супроцьпаставіць нават сонцу. Прычым гэта супроцьстаўленьне таксама праяўляецца ў форме нейкага буянства.

„Сонца, ты любіш купацца па стрэхах,
любішь сесьці на згніўшым крыжы.
Ведай толькі, я ня сьмехам,
лепш ня суньця са мной на нажы.“

Праяўляецца пэўная дробна-буржуазная бунтоўнасьць, дробна-буржуазная стыхійнасьць дзеяньня.

Але трэба сказаць, што ўжо і ў першыя гады ў творчасьці А. Александровіча ў яе (творчасьці) дробна-буржуазным зьмесьце, у стыхійным бунтоўным, ярка праяўляецца тое здаровае зярне, якое ў далейшым, праз глыбейшае асмысьліваньне працэсаў рэчаіснасьці, працэсаў клясавай барацьбы, праз асьмысьліваньне законаў рэвалюцыі, — прыводзіць А. Александровіча да такіх актуальных пралетарскіх твораў, як „Цені на сонцы“ „Нараджэньне чалавека“, п'еса „Напор“.

Такі пасьпяховы рост паэты, — ад дробных павярхоўных вершаў, ад стыхійнага дзеяньня, бунтоўнасьці, да шырокіх мастацкіх палотнаў, да глыбокага асмысьліваньня рэчаіснасьці, выцякае з таго, што А. Александровіч сваю творчасьць ня ставіў і ня ставіць наперакор гістарычнаму працэсу, наперакор рэвалюцыі, наперакор лініі, якая праводзіцца Камуністычнай партыяй і на аснове якой мы атрымоўваем усё новыя і новыя вялізарныя перамогі на фронце сацыялістычнага будаўніцтва. Наадварот, рост і фармаваньне паэты перамаганьне цяжкасьцяй росту, перамаганьне дробна-буржуазнага пачатку першых год сваёй творчасьці, перамаганьне розных нездаровых уплываў (мяшчанства, нацыяналістычнай літаратуры) на творчасьць у працэсе росту, характарызуецца тым, — наколькі паэта імкнуўся зьліцца з працэсам рэвалюцыі, наколькі паэта імкнуўся са сваёю творчасьцю актыўна ўключыцца ў працэс сацыялістычнага будаўніцтва, наколькі паэта ўсё глыбей і глыбей пранікаў у складаныя законы аб'ектыўнай рэчаіснасьці, падыходзіў да аўладаньня марксыцка-ленінскай тэорыяй, падыходзіў да аўладаньня творчым мэтадам матэрыялістычнай дыялектыкі. І менавіта толькі таму, што паэта ўвесь час ішоў па лініі шчыльнага зьліяньня з працэсам рэвалюцыі, зьліяньня з тэорыяй і практыкай пралетарыяту, яго творчасьць дасягае такога росквіту, такой літаратурна-палітычнай актуальнасьці, якую мы маем у апошніх творах паэты, дзе паэта падышоў да аўладаньня творчым мэтадам матэрыялістычнай дыялектыкі.

Рост паэты адбываўся па лініі ўглубленьня ў працэс рэчаіснасьці, па лініі шчыльнейшага зьліяньня з ідэямі пралетарыяту. Паэта ў першыя гады ўжо бачыць, што самы просты, самы правільны шлях, якім можа прыйсці чалавецтва да лепшай будучыні, — гэта шлях, па якому ідзе пралетарыят, кавалі новага жыцьця. Яму на гэты шлях хочацца стаць, зьліцца з кавалямі новага жыцьця, каб разам з імі ісьці да далейшых перамог, каб разам з імі несьці сьцяг здабытай волі, сьцяг рэвалюцыі.

Ужо ў 1923 годзе, на трэцім годзе сваёй літаратурна-мастацкай дзейнасьці, паэта да гэтых кавалёў новага жыцьця зварочваецца з такімі радкамі:

„Гэй, братцы, кавалі, жыцьця новага,
вы прымеце мяне ў грамаду сваю.
Разам з вамі пайду ўперад сьмела я
нясучы сьветач волі здабытае.
Сам я выйшаў з народу працоўнага,
праца заўжды са мной неразлучная.
Мне знаёмы кавальскія молаты,
мне ня нова, што там—праца цяжкая.
З песьняй гучнай, бадзёрай, зазыўнаю—
я каваць буду долю шчасьлівую.
Дзецям працы—узьнятае полымя
прынясе вызваленьне сусьветнае".

Ужо ў гэты час паэта імкнецца зьліцца з тэй асноўнай сілай, якая ўзьняла высока сьцяг рэвалюцыі, сьцяг працы,—зьліцца з рабочай клясай і ісьці „з песьняй гучнай, бадзёрай, зазыўнаю—каваць долю шчасьлівую".

Паэта бачыць адзіны выхад для перамаганьня беднасьці, зьнішчэньня эксплёатацыі працоўных гораду толькі ў рэвалюцыі, пад сьцягам, які нясе рабочая кляса.

Паэта пачынае ўсё цьвярдзей станавіцца на правільны ідэёва-творчы шлях. Перад ім усё ясьней загараецца пэрспэктыва будучыні. Паэта хоча, каб яго творчасьць, яго песьня ня была бязмэтнай, бунтоўнай, нібы вецер, што рве вакяніцы, а ён хоча, каб яго песьня была карыснай для нашага будаўніцва.

Пра сваю песьню паэта кажа:

„Мая песьня —
песьня фабрык!
Мая песьня —
чырвань фарбаў,
Маё слова —
плынь душы...
Мая песьня —
веснавыя ўзоры,
гонам дня
ў рабочую пару.
Мая песьня —
Новы Горад
Маладняк
і
Беларусь!"

Прыблізна ў 1924-25 годзе з гарадзкой стыхіяй, з-за машыны, якой у першых вершах паэты засланяўся рабочы,—пачыняе вырастаць постаць шаўца, машыніс-тага, друкара. Праўда, гэтыя рабочыя аўтару ўяўляюцца не як сапраўдныя рабочыя тэй ці іншай галіны вытворчасьці, якія зьвязаны аднэй ідэяй, адным пачуцьцем і якія з гонарам працуюць на карысьць сваёй дзяржавы, а яны ўяўляюцца, як паасобныя працаўнікі-саматужнікі, якія працуюць з-за сваёй асабовай карысьці, каб пражыць, у якіх маецца сваё начыньне,—бо „бяз іх, як бяз рук, прападзеш за нішто, як бяз працы". „Ні шавец—калі ён без начыньня".

У паэты прыблізна ў гэты час выступае чалавек, які кіруе машынай, кіруе машынным гулам. „Машынным звонкім хорам кіраваў сівенькі машыніст". Паэта пачынае захапляцца ўжо не машынай, ня стыхіяй, не фабрычным будынкам, трубой, а тымі людзьмі, героямі працы, якія ствараюць і машыну, і трубу, і фабрыку, і якія кіруюць усім гэтым. Паэта бачыць, як:

„— Героя працы—машыніста—
насіла моладзь на руках..".

Праца для паэты асноўная, што рухае жыцьцё, гэта тое, што перамагло і перамагае. Хоць гэта і ня лёгкая рэч. У абрысоўцы паэты яна ня вельмі павабная. Ад працы „баліць рука—матыка", ад працы „у грудзёх, у рабочых гудзе", ад працы „слабела рука, утомаю плечы самлелі" і г. д. Але-ж паэта бачыць адзіны выхад у ёй. Таму што яна пераможная, таму з працай:

„Вялікі шлях прайшлі.
У паходах мы расьлі.
Сусьвет айчына нам. Ня знаем межаў нацый.
Мы гартаваліся ў агнёх вялікай працы!"
(1925 год).

Паэта ўсё глыбей пачынае ўсьведамляць гістарычны працэс. Для

паэты становіцца ясным, што рухаючай пружынай зьяўляецца клясавая барацьба, у якой перамагае праца, перамагае рабочая кляса.

Падыходзячы да такога ўсьведамленьня гістарычнага працэсу, паэта стараецца рашучым чынам перамагчы свае ранейшыя дробна-буржуазныя погляды на рэчаіснасьць. Ён імкнецца перамагчы, стаптаць тоё мяшчанскае сьмяцьцё, якое ўплывала на творчасьць паэты ў працэсе яго фармаваньня. Ён цалкам адкідае тую стыхійнасьць, тое бунтарства, што мела месца ў першыя гады ў творчасьці паэты. Ён з гэтай стыхіяй бунтарства выходзіць на цьвёрды шлях пралетарскай літаратуры.

Паэта ідзе „па каменьнях бруку цьвёрдым крокам уздымаючы пыл высока, топчучы мяшчанскае сьмяцьцё“ (1925 год). Паэта ўсьведамляе і тое, што:

„Калісьці ішоў я
з сонцам на нажы
любіў часамі крыху бурапеніць“
(1926 год)

Такое ўсьведамленьне, такая шпаркая перабудова паэты, такое шпаркае перамаганьне ў сваёй творчасьці дробна-буржуазнага, бунтарства, уплыву мяшчанства—зьўляецца ў выніку рашучага, актыўнага ўключэньня паэты ў сацыялістычнае будаўніцтва, у выніку таго, што паэта не баяўся тых супярэчнасьцяй, тых цяжкасьцяй, якія сустракаліся на шляху перабудовы, на шляху росту паэты,—ён перамагаў гэтыя цяжкасьці.

Гэтыя посьпехі выцякаюць з таго, што паэта пашоў з рабочай клясай, што ён сваю працу кантраляваў і кантралюе лініяй камуністычнай партыі.

„Пайшоў і я дарогай камяністай,
Пайшоў з рабочымі пад сьвіст ліхіх віхур.
Пайшоў бадзёры я, з прыпеўнасьцю агністай!
І сёньня разам я з грамадай камуністых
за цэглай цэгліну ўскладаю ў новы мур...“
(1926 г.)

Паэта А. Александровіч, такім чынам, уздымаецца да ўзроўню задач свайго часу, якія стаялі ў той час перад пралетарыятам, якія стаялі ў той час перад рэвалюцыяй. Ён, зьяўляючыся паэтам гораду, незабываецца і на вёску. Ён разумее, што пралетарскі горад, сацыялістычная індустрыя ня можа расьці бяз росту, без перабудовы вёскі і наадварот. „Я ведаю: горад і вёска—дарогі да шчасьця адны“.

З гэтай прычыны, ён частку сваёй творчасьці накіроўвае на карчаваньне ўсяго старога, бруднага, рэакцыйнага, што мяшае вёсцы разьвівацца ў сацыялістычным напрамку, ісьці разам з пралетарскім новым горадам.

„Пайду я просторам
лясной Беларусі,
пайду па шляхох ,беларускіх далін.
Горад, мой родны, я не зракуся
гучных мэлёдый сталёвых машын.
Толькі пайду я далінай вазёраў,
там пакарчую палын-траву“.
(1926 г.)

Для паэты становіцца яснай пэрспэктыва будучыні. Ён зусім аптымістычна заяўляе, што: „знойдзеным шляхам здалею прайсьці“.

Але аптымізм паэты выцякае не з не асмысьленага працэсу, не з аднаго якога-небудзь факту жыцьця, а з глыбокага аналізу аб'ектыўнай рэчаіснасьці, з аналізу таго шляху, на які цьвёрда стаў паэта. Таксама паэта добра бачыць і тое, што самы шлях, па якому ідзе паэта, па якому ідзе пралетарыят, — не зьяўляецца гладкім мосьцікам, па якому можна ісьці свабодна, лёгка, бяз усякіх перасьцярог, цяжкасьцяй, супярэчнасьцяй. Паэта бачыць, што гэты шлях ня роўны, што жыцьцё супярэчлівае, што „ня роўны люд зямлі“, і што ісьці па гэтаму шляху,—гэта значыць змагацца, перамагаць цяжкасьці.

„Ня роўны люд зямлі!
Зямлі ня роўны шлях!
Жыцьцё супроць жыцьця!
Супроць самоты—радасьць!“

Паэта падыходзіць да жыцьця дыялектычна. І гэты дыялектычны падыход з кожным поступам паэты ўперад па творчаму шляху ідзе па лініі ўглубленьня. Менавіта на гэтай аснове зьяўляюцца і такія буйныя творы паэты, як „Цені на сонцы“, „Нараджэньне чалавека“, п‘еса „Напор“.

У гэтых буйнейшых творах пралетарскай літаратуры паэта ахапляе ў пэўнай меры асноўнае характэрнае, пэўнага гістарычнага этапу, для нашага будаўніцтва, характэрнае для пралетарскай рэвалюцыі.

Гэтыя творы, іх зьмест, іх ідэйная накіраванасьць, клясавая завостранасьць, — сьведчаць, што паэта да рэчаіснасьці падыходзіць па партыйнаму як бальшавік і здольны мастак. Гэтыя творы сьведчаць аб тым, што паэта, стаўшы на правільны шлях, імкнецца не адстаць ад нашай імклівай сучаснасьці, імкнецца ісьці разам з нашым пасьпяховым будаўніцтва, актыўна дапамагаючы апошняму, праводзячы ідэі апошняга (будаўніцтва) ў сваёй творчасьці.

У чым каштоўнасьць і чым характэрны апошнія названыя творы паэты?

Што сабой уяўляе паэма „Цені на сонцы“?

Паэма „Цені на сонцы“ перш за ўсё адлюстроўвае пэўны пэрыяд нашай рэволюцыі, пэрыяд нашага сацыялістычнага будаўніцтва, — менавіта пэрыяд рэканструкцыі народнай гаспадаркі, пэрыяд абвостранай клясавай барацьбы. У гэтай паэме паэта ўскрывае тое рэакцыйнае, гнілое (і разам з тым пагражаючае для нашай сучаснасьці), якое мяшае пасьпяховаму сацыялістычнаму будаўніцтву, якое ўпарта, актыўна супраціўляецца сацыялістычнаму наступу. У гэтай паэме паэта зрывае маскі з ворага рэвалюцыі, з ворагаў сацыялістычнага будаўніцтва. Ён паказвае чытачу сапраўдны твар тых, хто скарыстоўваючы „савецкае дабрадушша“ прабраўся ў савецкія розныя ўстановы, прыкрыўшы сябе „савецкім“ слаўцом вядзе разбураючую актыўную работу на карысьць контррэвалюцыі, на карысьць буржуазіі — у напрамку зьнішчэньня дыктатуры пралетарыяту, зьнішчэньня савецкай улады.

У гэтай паэме А. Александровіч вельмі рэльефна паказаў тыя мэтады, тыя спосабы барацьбы супроць савецкай улады, якія выкарыстоўвае буржуазія і яе інтэлігенцыя, на пэўным этапе пралетарскай рэвалюцыі.

Гэтай паэмай паэта даў вельмі глыбокі прагноз пэўнаму этапу рэвалюцыі, этапу клясавай барацьбы. Разам з тым, што „сусьвет ахвачаны сонечным пажарам“,—паэта бачыць, што „і пад сонца хмары падпаўзьлі“.

Паэта бачыць, што да нашага будаўніцтва, каб шкодзіць, прыстасаваліся былыя людзі. Такія, што „учора — генэрал-барона сакратар, а сёньня—кансунтальтантам у саветаў... “Такія, калі:

„да славы ідучы, ня раз зьмяняў свой грым;
ён земгусарам быў,
чыноўнікам,
міністрам
у Скарапацкага па справам нутраным“.

Паэта знаходзіць іх абодвых, пад маскай, у нашых установах. Яны змаглі, зьмяніўшы грым, прыстасавацца.

„Абадвы ў нас цяпер,
на „бальшавіцкіх крэсах“,
зьмянілі гальштукі, дый што далей казаць
чудзесны кум чырвоны стаў прафэсар,
партфэль выдатнасьці набыў цудоўны зяць“.

Паэта знаходзіць і такіх, калі„ было ён першым рынуўся на фронт, на абарону — „Единой неделимой“, а „сёньня ўжо, дзівіцца, ён дацэнт!“

Гэтыя людзі паказаны ў паэме, як актыўныя агенты буржуазіі, як кар‘ерысты, прадажныя істоты. Вобразы гэтых людзей, іх дзеяньне, з аднаго боку, выклікаюць сьмех у чы-

тача, а з другога боку, яны мабілізуюць чытача, завастраюць яго ўвагу на небясьпеку з боку гэтых людзей. Гэтыя вобразы завострываюць у чытача клясавую пільнасьць, прымушаюць чытача глядзець на жыцьцё не павярхоўна, а глыбока асмысьліваць працэсы жыцьця.

Усе вобразы былых людзей, якія пададзены ў паэме, ня гледзячы на іх прафэсійнае разьлічча, злучаюцца на аднэй пляцформе, злучаюцца аднэй ідэяй—гэта займацца шкодніцтвам, седзячы на савецкім крэсьле, разбураць краіну з нутра, у імя старой мінуўшчыны, у імя звароту эксплёатацыі, у імя звароту ўлады капіталістых.

Гэтай паэмай А. Александровіч нанёс ращучы ўдар гэтым былым людзям — агентам контррэвалюцыі, сарваўшы з іх маску, паказаўшы іх сапраўдны шкодніцкі твар, паказаўшы іх контррэволюцыйную сутнасьць.

Гэтай паэмай А. Александровіч нанёс рашучы ўдар контррэвалюцыйнаму нацыянал-дэмакратызму, які злучаецца аднэй ідэяй з былымі людзьмі, з агентамі буржуазіі.

Зусім ня дзіва, што калі А. Александровіч надрукаваў першую частку сваёй паэмы „Цені на сонцы“ у часопісі „Полымя“ (1927 г.)—якраз у пэрыяд, калі клясавая барацьба ў краіне прымала ўсё вастрэйшы характар (выклікана нашым ростам, рэканструкцыйным пэрыядам), у гэты час у рэдакцыю часопісі „Полымя“ пасыпаліся абураючыя лісты пратэсту на зьмяшчэньне гэтай часткі паэмы. Адразу гэтыя былыя людзі адчулі каля свайго варожага твару руку паэты бальшавіка, які моцна ўчапіўся за рог маскі, які ўжо агольваў іх варожы твар.

У лістох пачалі абурацца на паэту, на рэдакцыю, што рэдакцыя зьмяшчае не мастацкія рэчы (!), што рэдакцыя зьніжае якасьць сваёй часопісі,—пачалі гэтыя былыя людзі на вялікіх лістох выкладаць свае жыцьцёпісы,—нават тады, калі гэтага ў іх ніхто і ня пытаў.

Гэты факт гаворыць за тое, што паэта А. Александровіч папаў у мэту,—прама ў лоб ворагу.

Але было-б памылковым думаць, што вобразы былых людзей, якія пададзены ў паэме, узяты аўтарам з жыцьця эмпірычна, як некалькі варожых асоб у мэханічным злучэньні. Зьяўленьне гэтых вобразаў, як і самой паэмы „Цені на сонцы“,—ёсьць вынік глыбокага асмысьліваньня аўтарам гістарычнага працэсу, адпаведнага пэрыяду клясавай барацьбы. Гэтыя вобразы зьявіліся ў выніку тэарытычнага падыходу аўтара да рэчаіснасьці.

Аналізуючы становішча, аналізуючы шлях сацыялістычнага будаўніцтва перад аўтарам ускрыліся тыя супярэчнасьці, тыя цяжкасьці, тое контррэвалюцыйнае супраціўленьне рэштак капіталізму, якое аўтар падае нам у сваёй паэме „Цені на сонцы“, якое ў прадсьмертных сударгах актыўна пярэчыць пасьпяховаму сацыялістычнаму будаўніцтву.

Як перамагчы гэтыя цяжкасьці нашага росту, як зьнішчыць супраціўленьне ворага, супраціўленьне рэштак капіталістычных элемэнтаў, аб гэтым аўтар кажа ў эпілёзе. Што наша перамога ў працы, у тэмпах працы, ідучы на кліч партыі.

„Разьліваем
паводкі
за —
пяцігодку,—
у бой навальнічны
партыя кліча!
Фабрыка - полк.
Цэх—узвод.
За крокам, крок
— паход!“

Паэта не палохаецца цяжкасьцяй. Для паэты ясна адно, што рабочая кляса ў сваім адзінстве: „фабрыкай—палком“, „цэхам—узводам“, пад кіраўніцтвам сваёй партыі—пераможа.

Паэма „Цені на сонцы“ сьведчыць аб тым, што А. Александровіч стаіць цьвёрда на бальшавіцкім шляху творчасьці, што яго мастацкае слова, як і ўся пралетарская літаратура,

зьяўляецца моцнай зброяй у руках пралетарыяту на фронце сацыялістычнага будаўніцтва. Гэта паэма сьведчыць, што паэта А. Александровіч падняўся да ўзроўню ідэй пралетарыяту, што само жыцьцё, клясавую барацьбу паэта разгледжвае з пункту гледжаньня пралетарскай рэвалюцыі.

Для А. Александровіча зьяўляецца ясным, што рухаючай сілай гісторыі чалавецтва—ёсьць клясавая барацьба. У працэсе клясавай барацьбы зьмяняецца жыцьцё, зьмяняецца эканоміка, зьмяняецца чалавек, зьмяняюцца ідэі. Так менавіта падыходзіць паэта і ў перадапошнім сваім творы—вершаваным рамане „Нараджэньне чалавека".

Адыходным пунктам у гэтым творы, у поглядзе на працэс гісторыі, на працэс фармаваньня чалавека,—гэта ўсё разглядаць у руху, у разьвіцьці, ва ўзаемадзеяньні, у працэсе клясавай барацьбы. „Жыцьцё зьмяняецца, зьмяняюцца ідэі. Расьце сасна, а поруч тлее корч".—Так пачынае свой раман паэта.

У творы „Нараджэньне чалавека" А. Александровіч не ставіць пытаньне нараджэньня чалавека ў фізыолёгічным разуменьні, таму што паэта разумее, што не ад гэтага залежыць сацыяльная істота чалавека. Пытаньне нараджэньне чалавека паэта ставіць у сацыяльным клясавым разуменьні. Што чалавек, як сацыяльная катэгорыя, нараджаецца ў працэсе клясавай барацьбы, у сувязі з клясавай практыкай. Ад гэтага залежыць і яго сьветапогляд і яго імкненьні. Гэта ідэя зьяўляецца асновай твору „Нараджэньне чалавека".

Марылька—галоўны вобраз твору, якая несьвядома становіцца ахвярай шпіёнскай арганізацыі, якая несьвядома выконвае даручэньне гэтай арганізацыі, якая праходзіць агністы, цяжкі жыцьцёвы шлях,—яна ўсё-такі застаецца вернай сьлесару Рыгору, а не паквапіліся на багацьце памешчыка Каўказу Дарубашвілі. У яе ў аснове клясавы інстынкт, у яе ў аснове тое, што гартавалася, калі яна

Жыла ня ў роскашы
з маленства гэтак звыкла,
штодня за працай час праводзіць свой,
і на дванаццаць вушак
лапці з лыка
насіла—ўвязвала
і ўвосень і зімой..."

Жыцьцё Марылькі ў супярэчнасьцях. Жыцьцё яе трагічнае. Ёй хочацца сустрэцца з Рыгорам, ёй хочацца зьліцца з працай і разам з гэтым яна гэты шлях знайсьці ня можа, яна несьвядома ідзе супроць таго, да чаго імкнецца. З аднаго боку, вязучы контррэвалюцыйны ліст, яна ідзе па струхнелым мосьціку над глыбокай рэчкай, а з другога боку, яе клясавы інстынкт вядзе на верны і цьвёрды шлях жыцьця.

Калі Марылькай кіруюць ворагі рэвалюцыі—яна ня можа гэтага зразумець. Яна—іх ахвяра. Але яе клясавы інстынкт не здае яе ў палон ім.

Марылька прыходзіць да поўнага свайго клясавага ўсьведамленьня тады, калі яна зьліваецца з працай, калі яна зьліваецца з сілай рэвалюцыі. Тут яна сябе загартоўвае. Тут яна адчувае сябе, што яна нарадзілася на сьвет. „У рэвалюцыі радзілася я зноў",—кажа Марылька. Яна нарадзілася, калі перажыла цяжкасьці жыцьцёвага шляху.

„Я нарадзілася, калі стапнела гора.
Дарогай вогнішча ў жыцьцё сваё увайшла!"

Сьвядомасьць, адданасьць рэвалюцыі ў Марылькі выкоўваецца ў працэсе працы ва ўчобе.

„І вось за працай і рукі, як другія,
І аркушы паперы шасьцяць інакш зусім.
І літары брашур—завуць (яны жывыя)
на штурм жыцьця запалам маладым.
Няхай ня полымем мне быць, я гэта знаю.
Але іскрой, браткі, я мушу быць!
І сёньня
Разам з вамі выступаю,
Як роўны з роўнымі
У навалу барацьбы".

У далейшай працы ў рабочым калектыве мы бачым, што з Марылькі выпрацоўваецца стойкі, сьвядомы барацьбіт за ідэі рэвалюцыі. Яна ў працы знаходзіць свой шлях. Яна становіцца зусім інакшай.

„— Цяпер зусім інакшаю,
Другой зусім, другой,
Вёска саламяшная,
Спаткаюся з табой.
Колькі сіл, напорнасьці
Заве ў грудзёх маіх—
Гарэць, тварыць, дазорнасьці
Ад веку агнявых.
Поступам гартованым
Іду ў жыцьцё, далей.
Шлях мой заваёваны;
Давай, цягнік, хутчэй!..“

Акрамя таго, што ў рамане А. Александровіч падае вобраз Марылькі, вобраз сацыяльна фармуючага чалавека ў гэтым рамане мы маем таксама шырокае і глыбокае адлюстраваньне клясавай барацьбы ў пэрыяд разгортваньня пралетарскай рэвалюцыі. У рамане выступаюць цэлы рад тыпаў, актыўныя дзеячы рэакцыі, абаронцы буржуазнай улады; папы, памешчыкі, спэкулянты-гандляры, якія складаюць адзіны фронт контррэвалюцыі.

„Нараджэньне чалавека“ таксама, як і „Цені на сонцы“, як і апошні драматычны твор А. Александровіча „Напор“ завастрае клясавую пільнасьць чытача, патрабуе ад яго быць зоркім, стойкім у адносінах да клясавага ворага. Гэты твор паказвае, як варожыя сілы рэвалюцыі змаглі ўмела скарыстаць зусім сацыяльна блізкага чалавека пралетарскай рэвалюцыі Марыльку.

Таксама гэты твор сьведчыць аб тым, што шлях да волі, да праўды, да лепшага жыцьця—ёсьць шлях пралетарскай рэвалюцыі. Гэта выцякае з самой ідэі твору.

Раман пабудован на фабуле любоўнай інтрыгі. Але каханьне ніяк не зацямняе, не мяшае ўспрымаць тую ідэю, якую аўтар паклаў у аснову твору. Наадварот, само каханьне Марылькі з Рыгорам дапамагае выяўляць ідэю твору, ясьней абрысоўвае гэтую ідэю. Імкненьне Марылькі сустрэцца з Рыгорам перш за ўсё выражаецца ў сацыяльна-клясавым імкненьні.

Гэта сьведчыць, што ў аўтара на першым пляне зьяўляецца клясавая ідэя, што асновай усяго зьяўляецца ідэя пралетарскай рэвалюцыі. У аднэй форме гэта ідэя выражаецца ў ранейшых вершах паэты, у другой форме яна выражаецца ў паэме „Цені на сонцы“, у інакшай форме гэтая ідэя выражаецца ў рамане „Нараджэньне чалавека“. Але ідэя рэвалюцыі, ідэя пралетарыяту праходзіць праз усю творчасьць паэты.

Гэту самую ідэю—ідэю пралетарскай рэвалюцыі, ідэю сацыялістычнага будаўніцтва А. Александровіч выражае і ў апошнім сваім творы ў п‘есе „Напор“.

У п‘есе „Напор“ адлюстроўваецца напружаная барацьба пралетарыяту разам з калгасьнікамі, на фронце сацыялістычнага будаўніцтва. У гэтай п‘есе аўтар адлюстроўвае змаганьне аднэй брыгады на дрэваапрацоўчай фабрыцы за выкананьне прамфінпляну. Аўтар паказвае, як напружанай працай, ужываючы мэтады сацспаборніцтва, ударніцтва камсамольская брыгада ліквідуе той прарыў, які меўся на прадпрыемстве. Аўтар падкрэсьлівае тую бальшавіцкую сьвядомасьць, тую энэргію да працы, тую актыўнасьць, чым прасякнуты рабочыя данага прадпрыемства, камсамольская брыгада.

Змаганьне за прамфінплян на заводзе адбываецца ва ўмовах перамаганьня цяжкасьцяй ва ўмовах клясавай барацьбы.

А. Александровіч у гэтай п‘есе ўскрывае новыя формы, новыя мэтады барацьбы ворагаў сацыялістычнага будаўніцтва на даным этапе рэвалюцыі.

У гэтай п‘есе падкрэсьліваецца, што клясавы вораг ня сьпіць, што клясавы вораг дзейнічае, толькі ў інакшай форме, іншымі мэтадамі.

Калі ў паэме „Цені на сонцы“ і ў рамане „Нараджэньне чалавека“ А. Александровіч падае нам

дзеяньне клясавага ворага праз арганізацыю апошняга, праз нейкі атрад, загавор, праз арганізаванае шкодніцтва, што цалкам адпавядала пэўнаму этапу сацыялістычнага будаўніцтва, дык у п'есе „Напор" мэтады, форма барацьбы клясавага ворага інакшая.

У п'есе „Напор" мы ня бачым тых нітак, якія-б адыходзілі ад шкоднікаў данага заводу і зьвязвалі іх са шкоднікамі іншых прадпрыемстваў. Таму, што такія шырокія арганізацыі шкоднікаў біты. Шкоднікі, агенты буржуазіі дзейнічаюць зараз інакш: „Ня трэба змовы, не, ня трэба, я сам сабе, а ты сабе..."— вось тактыка клясавага ворага на даным этапе.

А. Александровіч у п'есе „Напор" паказвае, што клясавы вораг дзейнічае больш складана, больш небясьпечна, чым ён дзейнічаў раней. Што клясавы вораг ня шукае свайго выхаду ў мірнай малітве, а ён імкнецца зрабіць свой уплыў на рабочую масу і праз яе далей праводзіць свае пляны.

Вось як разважае шкоднік, бракер Зарэмба ў гэтай п'есе:

„Маліцца, ведама...
Але аднэй мальбой
Ня справіцца з бязбожнай галыцьбой.
А сьціхам трэба, мірна і з падходцам,
Узяць к сабе, бліжэй, вось, гэтых хлопцаў".

Прычыны шкодніцтва клясавы вораг закопвае глыбей. Ён (вораг) імкнецца пралезьці ў масы, імкнецца абвастрыць адносіны ў самым рабочым калектыве, каб праз гэта спыніць тэмпы працы, каб спыніць выпуск прадукцыі.

Што для гэтага робіць гэты самы шкоднік Зарэмба-бракер?

Ён для таго, каб спыніць завод і гэтым самым зрабіць на заводзе прарыў,—знарок робіць сорак процантаў браку, выпушчанай прадукцыі.

Ён кажа: „Сёньня я процантаў сорак брак прызнаў".

А з-за якой мэты?

З мэтай зрыву тэмпаў працы, зрыву прамфінпляну вытворчасьці, з мэтай унесьці ў рабочы калектыў, у кіраўніцтва заводу паніку. Таму што

„ . . . . . . . . тады
Дырэктар на дыбы,
Ячэйка за чубы
Брак! Брак!
Паніка. Брак!
На ногі завод!
На ногі барак!
Крык на двары:
Пр-ра-арыў...
Сход. Мітынг. Штурмавалі,
Гаварылі і крычалі—
А машыны.. прастаялі".

Вось для чаго Зарэмба прызнае брак.

У гэтым напрамку ён дае і дырэктывы старшыні арцелі сэзоньнікаў—Кандралю.

„Хлапцоў ты сваіх настрой
Хай спэцоўку патрабуюць.
Не дадуць?—грамадой
Усе.. як быццам забастуюць".

Клясавы вораг імкнецца спэкуляваць на нашых цяжкасьцях росту, імкнецца скарыстоўваць усе магчымасьці. Калі ідзе рэч аб тым, што завод павінен даць Данбасу для рабочых тысячу стандартных дамоў, дык гэтыя шкоднікі „згаджаюцца".

„Мы зробім... з гнілак і фанэры,
Каб не ўстаяў аднэй зімы.
Раз—хата дрэнь, раз вецер шорыць,
Дык менш вуглю дадуць шахцёры.
А менш вугля—дык з кожным годам
Усё больш зачыніцца заводаў."

Вось лёгіка, вось тактыка клясавага ворага. Такая форма клясавага змаганьня, бязумоўна, зьяўляецца характэрнай для данага этапу нашага соцыялістычнага будаўніцтва. І аўтар зусім правільна ўскрывае гэта ў п'есе.

Але разам з наяўнасьцю на фабрыцы такіх вялікіх супярэчнасьцяй, такога глыбокага захаванага шкодніцтва,—воля і энтузіязм рабочай клясы, энтузіязм камсамольскай брыгады прыводзіць фабрыку да перамогі.

А. Александровіч падкрэсьлівае, што энтузіязм рабочай клясы, яе адзінства дзеяньня—мацней усяго. Што рабочая кляса, пад кіраўніцтвам сваёй партыі, зможа і перамагае самыя вялікія цяжкасьці на шляху вялікага будаўніцтва. Што ворагі рэвалюцыі шкодзяць сацыялістычнаму будаўніцтву, заграмаджаюць шлях гэтага будаўніцтва, але ворагам ня ў сілах перамагчы волю рабочай клясы, ня ў сілах спыніць пасьпяховае будаўніцтва сацыялізму. Такая менавіта ідэя выцякае з п'есы „Напор“.

Было-б неадацэнкай п'есы „Напор“, гэтага актуальнага твору пралетарскай літаратуры нашай сучаснасьці, калі-б сказаць, што гэты твор адлюстроўвае змаганьне рабочых за сацыялістычнае будаўніцтва, змаганьне за прамфінплян рабочага калектыву толькі на адным прадпрыемстве, у даным выпадку на дрэваапрацоўчай фабрыцы.

П'еса „Напор“ зьяўляецца адлюстраваньнем характэрнага на даным этапе для барацьбы рабочай клясы ў цэлым. Гэта п'еса ёсьць глыбокае выражэньне таго, што адбываецца зараз на фронце сацыялістычнага будаўніцтва нашай краіны.

І бязумоўна, што да тэй глыбіны, да тэй паўнаты адлюстраваньня, да тэй клясавай завостранасьці творчасьці,—А. Александровіч змог падняцца толькі таму, што ён сваю творчасьць не адрываў ад практыкі сацыялістычнага будаўніцтва, ад практыкі пралетарыяту, а наадварот, актыўна ўключаўся і ўключаецца ў працэс сацыялістычнага будаўніцтва, заўсёды сваю творчасьць зьвязваў з практыкай пралетарыягу,—у сваёй творчасьці стараўся правесьці і праводзіць ідэі пралетарыяту, ідэі камуністычнай партыі.

Да вышыні пралетарскай літаратуры, вышыні ідэй рабочае клясы А. Александровіч змог падняцца толькі таму, што ён да жыцьця падыходзіць дыялектычна, што ён падышоў да аўладаньня творчым мэтадам дыялектычнага матэрыялізму.

Але гэта яшчэ зусім ня значыць, што. А. Александровіч ужо цалкам аўладаў творчым мэтадам дыялектычнага матэрыялізму, што ў творчасьці А. Александровіча няма недахопаў.

Творчасьць А. Александровіча на дзесяцігадовым шляху свайго разьвіцьця мае недахопы. Недахопы гэтыя (апошніх год) перш за ўсё выяўляюцца часамі ў некаторым схэматызьме, лёзунговасьці, пры адлюстраваньні рэчаіснасьці („Паэма імя вызваленьня“ і шэраг ранейшых вершаў).

Таксама ў ранейшых творах А. Александровіча (а часткова і ў „Нараджэньні чалавека“ і ў п'есе „Напор“) адчуваецца недастатковая арганічнасьць твору як чагосьці цэлага, неразрыўнага ўчастку.

Але гэтыя недахопы не зьяўляюцца фактамі небясьпекі для А. Александровіча, яго далейшай творчай практыцы. Гэта ёсьць недахопы росту. Аснова творчасьці А. Александровіча, ідэйная сіла яго творчасьці апошніх год гэтыя недахопы прагрэсыўна зьнішчае.

А. Александровіч зараз стаіць на правільным творчым шляху, на бальшавіцкіх пазыцыях і яго далейшы рост—гэта поўнае аўладаньне творчым мэтадам дыялектычнага матэрыялізму (а праз гэта канчатковае зьнішчэньне недахопаў творчасьці), поўнага засваеньня тэорыі марксызму-ленінізму, як пераможнай тэорыі пралетарыяту на шляху да сацыялістычнага грамадзтва.

Сабасьцян Старобінскі

## МЫ ІДЗЕМ...

(пародыя на Іларыя Барашку)

Мы ідзем стройнымі калёнамі. Мы ідзем, бо хадзіць мы умеем і нават бегаць. У нас па дзьве рукі, па дзьве вухі і адзін нос. Мы людзі.
Мы ўсё бачым і чуем.
Мы ідзем.
Мы маса — нас шмат, ой колькі!
І мы ўсе ідзем.
І вось мы ідзем бязьлітасныя, злыя, нястрымныя і топчам ўсё, што пападае пад нашу нязломную галаву-чарапушку.
Бо мы ідзем.
Мы маса. Нас многа. Амаль мільёны.
Мы ідзем. Крокі нашы грук стотонных малатоў. Вочы нашы пражактары,
а валасы і кіпці — сталёвыя.
Дык што нам перашкоды?
Што нам усялякія там Антанты, ды Чэмбэрлены?
Што нам кулі?
Што нам цяжкія гарматы, ды ўсялякія там сьмярдзючыя іпрыцікі?
Што нам такая дробязь, як самалёты розных сыстэм?
Мы ідзем! Мы ідзем!
Мы—гэта мы. Мы людзі, а людзі— маса.
Мы пашам зямлю.
Карова дае малако.
Курыца нясе яйкі.
Кот ловіць мышак.
Сабака пільнуе дом.
А мы ідзем!
Мы ідзем!

## ПРА КАНФЭРЭНЦЫЮ МенАПП

Першага сьнежня скончыла сваю работу першая канфэрэнцыя Менскай Асацыяцыі Пралетарскіх Пісьменьнікаў. Гэта канфэрэнцыя мае надзвычайна вялікае значэньне ў гісторыі беларускай пролетарскай літаратуры.

Да гэтага часу ні адзін пісьменьніцкі зьезд, ні адзін пленум ня ставілі так глыбока і ўсебакова пытаньняў літаратуры, як паставіла іх канфэрэнцыя МенАПП. Па складу сваіх дэлегатаў канфэрэнцыя Мен АПП таксама значна адрозьніваецца ад папярэдніх зьездаў і пленумаў. На канфэрэнцыі прысутнічала 57 процантаў рабочых-ударнікаў, закліканых у літаратуру. Праца канфэрэнцыі праходзіла пры шырокім і актыўным удзеле пралетарскай грамадзкасьці гор. Менску.

У дзень адчыненьня канфэрэнцыіі з дакладам пра чацьверты год пяцігодкі і задачы беларускай пралетарскай літаратуры выступіў сакратар ЦК КП(б)Б таварыш Шаранговіч. Спыніўшыся на вялізарных дасягненьнях рабочае клясы і калгасьнікаў у справе пабудовы сацыялізму, тав. Шаранговіч вялікую частку свайго дакладу прысьвяціў непасрэдна задачам, якія стаяць перад беларускай пралетарскай літаратурай у пэрыяд уступленьня краіны ў сацыялізм. Тав. Шаранговіч адзначыў, што беларуская пралетарская літаратура мае вялікія дасягненьні, але разам з гэтым яна яшчэ адстае ад пасьпяховых тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, яна яшчэ недастаткова мабілізуе ўвагу працоўных на выкананьне задач, пастаўленых партыяй. Асаблівую ўвагу тав. Шаранговіч завастрыў на неабходнасьці весьці самае рашучае змаганьне з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе і контррэвалюцыйным нацдэмакратызмам і шавінізмамі розных колераў.

З шырокім дакладам пра становішча беларускай літаратуры і задачы МенАПП выступіў тав. Бэндэ. Падаючы канкрэтныя факты, тав. Бэндэ паказаў, што культура капіталістычнага сьвету, як і ўся капіталістычная сыстэма ідзе да заняпаду. У той час як у краіне дыктатуры пралетарыяту, на аснове аграмаджанай вытворчасьці, на аснове правільнага кіраўніцтва камуністычнай партыі ўсім жыцьцём краіны, на аснове ленінскай нацыянальнай палітыкі мы маем нябывалы ў гісторыі чалавецтва росквіт пралетарскай культуры, культурны рост працоўных мас усіх нацыянальнасьцяй.

Тав. Бэндэ асабліва падкрэсьліў вялікі рост за апошнія гады пралетарскай літаратуры, зазначыўшы, што пралетарская літаратура сваім колькасным і якасным ростам перасягнула іншыя плыні, што пралетарская літаратура становіцца гегемонам у беларускай літаратуры. Але разам з гэтым беларускай пралетарскай літаратуры трэба ўпарта змагацца, каб перамагчы сваё адставаньне ад тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва.

Асобнае месца ў сваім дакладзе т. Бэндэ адвёў клясаваму змаганьню ў беларускай літаратуры, паказаўшы на паглыбленьне працэсу разьмежаваньня ўасяродзьдзі пісьменьнікаў. Асаблівую ўвагу тав. Бэндэ завастрыў на змаганьні з вялікадзяржаўным шавінізмам, які ў розных формах выступае супроць ленінскай нацыянальнай палітыкі, а таксама на тых пісьменьнікаў (Аркадзь Лясны, Л. Калюга), творы якіх маюць пэўную тэндэнцыю абараняць кулацкую ідэалёгію. Разам з гэтым т. Бэндэ даў ясную ўстаноўку ў адносінах да нашых пісьменьнікаў - папутнікаў, як Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны і іншыя, якія імкнуцца перабудавацца, якія перабудоўваюцца, набліжаюцца да пралетарскай літаратуры. У адносінах да спадарожнікаў канфэрэнцыя падкрэсьліла, што мы павінны ім дапамагаць перабудоўвацца, ствараць для гэтага адпаведныя ўмовы,—змагацца за пераход спадарожніка ў нашага саюзьніка.

На канфэрэнцыі быў заслухан даклад т. Александровіча пра заклік рабочых-ударнікаў у літаратуру. Тав. Александровіч адзначыў, што прыход рабочых-ударнікаў у літаратуру ўзмацніў фронт пралетарскай літаратуры, што гэты прыход сьведчыць пра тое, што літаратурная справа становіцца часткай агульна - пралетарскай справы.

Таксама на канфэрэнцыі быў заслухан даклад пра творчую работу ўдарнікаў.

На канфэрэнцыі быў заслухан даклад тав. Кучара аб паказе герояў пяцігодкі ў беларускай пралетарскай літаратуры і садаклады: яўрэйскай сэкцыі, польскай сэкцыі пра разьвіцьцё беларускай пралетарскай драматургіі і выяўленчым мастацтве.

Цэнтральным месцам усіх дакладаў і садакладаў—было: змагацца за вялікае мастацтва бальшавізму. Змагаючыся з варожымі плынямі ў мастацтве, з варожай ідэалегіяй, ажыцьцяўляючы ў мастацтве прынцып ленінскай нацыянальнай палітыкі—мастацтва (літаратура, музыка, маляўніцтва, кіно) павінна стаць магутнай зброяй у руках пралетарыяту на фронце сацыялістычнага будаўніцтва. У гэтым напрамку адбываліся і выступленьні ў спрэчках па дакладах і садакладах.

Асобае значэньне мае выступленьне на канфэрэнцыі т. Галадзеда. Тав养рыш Галадзед у сваёй прамове адзначыў, што творы нашых пісьменьнікаў ня глыбока ахапляюць рэчаіснасьць, што яны абмяжоўваюцца адлюстраваньнем таго ці іншага жыцьця сёнешняга дня, але ня ставяць (на аснове сёнешняй рэчаіснасьці) пытаньне з усёй празорлівасьцю заўтрашняга дня. Прычына гэтага ў тым, што пісьменьнікі недастаткова вывучаюць працэсы сацыялістычнага будаўніцтва, працэсы вытворчасьці, працэсы калектывізацыі. Падыходзяць да зьяў не гістарычна, ня з пункту гледжаньня іх далейшай пэрспэктывы.

З вялікімі прамовамі на зьезьдзе выступалі: т. Платун, тав. Гарын (рэд. газэты „Зьвязда") і тав. Кавальчук, якія адзначалі вялікія дасягненьні рабочае клясы і калгасьнікаў на фронце культурнага будаўніцтва.

Спрэчкі на канфэрэнцыі цягнуліся некалькі дзён, якія (спрэчкі) перайшлі ў творчую дыскусію. Асноўная ўвага выступаючых была накіравана на глыбейшы паказ нашай рэчаіснасьці, на паказ у мастацкай літаратуры герояў пяцігодкі: ударнікаў фабрык, заводаў, калгасаў і саўгасаў—за стварэньне такога мастацтва, якое-б цалкам адпавядала нашай гераічнай эпосе, якое-б мабілізавала масы на барацьбу за сацыялізм.

С. К.

---

Беларускае Аб'яднаньне Пралетарска-Калгасных Пісьменьнікаў наладзіла шэраг выездаў паасобных пісьменьнікаў у раёны для арганізацыі літаратурных гурткоў, праз заклік ударнікаў сацыялістычных палёў у літаратуру.

На сёнешні дзень па раёнах арганізавана пятнаццаць літаратурных гурткоў з колькасьцю да чатырохсот ударнікаў калгасаў, саўгасаў, МТС, закліканых у літаратуру.

Гурткі арганізаваны ў Клімавіцкім, Талачынскім, Чэрвеньскім, Смалявіцкім, Заслаўскім, Касьцюковіцкім, Пухавіцкім, Клічаўскім і Сьмілавіцкім—раёнах.

Аб'яднаньне зараз рыхтуе праграмы для літаратурных гурткоў. Праграмы ў хуткім часе будуць разасланы.

РЭДКАЛЕГІЯ: С. БАРАНАВЫХ, Іл. БАРАШКА, П. ГАЛАВАЧ, Н. МІХАЙЛАЎ

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР: Н. МІХАЙЛАЎ.